НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
№ 41 (926) 4 лістапада 2015 www.nn.by
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

## Адзін загінуў у сваім першым падарожжы, а другія паляцелі замест сястры



Сярод ахвяраў авіякатастрофы ў Егіпце ёсць і беларусы. **Старонка 8**



## Як перажыў лета мінчук, які пераехаў у дзедаву хату на Палессі?

# «Карову трэба завесці. Ці жонку»

Старонкі 12—15

## Лукашэнка паставіў вайсковы акцэнт

Кіраўнік **дзяржавы** працягвае агляд вайсковых часцей і прадпрыемстваў ВПК.

Калі раней кіраўнік Беларусі найбольш калясіў па калгасах, то ад мінулага года ў яго з'явіўся новы прыярытэт — гэта войска і вайсковыя заводы.

Відавочна, што вайна ва Украіне адыграла тут не апошнюю ролю.

За апошнія два гады было наведана: 61-я знішчальная авіяцыйная база ВПС і СПА ў Баранавічах, 5-я асобная брыгада спецназа ў Мар'інай Горцы, 558-ы Авіяцыйны рамонтны завод, прадпрыемствы абарончага сектара ў Барысаве, 103-я асобная гвардзейская мабільная брыгада спецназа ў Віцебску, вайсковая часць спецпрызначэння Унутраных войскаў МУС 3214 ва Уруччы, ААТ «Пеленг». І вось за апошні тыдзень Лукашэнка наведаў 120-ю асобную механізаваную брыгаду і РВУП «Завод дакладнай электрамеханікі» ў Дзяржынскім раёне. А таксама правёў аператыўны збор каманднага складу Узброеных Сілаў.

Выступ у Доме афіцэраў быў паказальным. Перад выбарамі гучала, што, маўляў, Лукашэнка выступіў супраць расійскай вайсковай базы ў Бабруйску толькі для выбарцаў. Але выбары скончыліся, а рыторыка засталася. «З ваеннага гледзішча гэтая база не патрэбная ні Беларусі, ні Расіі», — паўтарыў Лукашэнка.

«Як кіраўнік дзяржавы, я не бачу сэнсу быць уцягнутымі ў гульню мускуламі нашых заходніх і ўсходніх суседзяў, — сказаў Лукашэнка. — Не час, і гэта не трэба. Трэба займацца рэальнай абаронай, а не паказушнай. І вось тут мы гатовыя з Расеяй на любыя мерапрыемствы», — адзначыў ён.

«Мінск шукае здаровы баланс», — так праінтэрпрэтавала пасланне Лукашэнкі газета Адміністрацыі прэзідэнта «Советская Белоруссия».

Таксама Лукашэнка прааносаваў стварэнне новай Ваеннай дактрыны Беларусі. Вайсковы эксперт Аляксандр Алесін кажа: «Новая дактрына распрацоўваецца тады, калі з'яўляюцца новыя пагрозы для дзяржавы».

«Мы павінны нанесці праціўніку непрымальную шкоду, калі ён вырашыць нас атакаваць. Непрымальная шкода, непрымальныя страты — вось галоўнае. І гэта выключна абарончая тактыка», — сказаў у аўторак Лукашэнка ў Дзяржынскім раёне.

Кіраўнік дзяржавы застаўся задаволены нядаўна створанымі машынамі «Паланэз». Але паставіў мэту — стварэнне новай, больш сучаснай ракетнай тэхнікі. Выглядае, што на ўсходняга саюзніка ў гэтым пытанні ўжо зусім не разлічваюць. Вырашыць пытанне загадана ўласнымі сіламі.

**Зміцер Панкавец**

## Затрыманы другі па багацці чалавек Гродна

Андрэя Паўлоўскага абвінавачваюць у няплаце падаткаў. **Старонка 3**.

## Прытомнасць нацыі

Павел Севярынец шукае «ціхага нацыянальнага прарыву». **Старонка 10**.

## Андрэй Казакевіч: З часам суседзі ўлічаць

беларускую версію гісторыі ВКЛ. **Старонка 11**.

## Апублікаваны дзённік Уладзіміра Караткевіча

З яго старонак паўстае самотнік. **Старонка 6**.

# Кірыл Руды: Чаму рэформы не атрымаюцца (ў 2016 годзе)

«Чаму рэформы не атрымаюцца (у Беларусі ў 2016 годзе)» — так гучала назва даклада памочніка прэзідэнта па эканоміцы Кірыла Рудага на Кастрычніцкім эканамічным форуме, што праходзіць у Мінску 3—4 лістапада. Назва неардынарная для высокага чыноўніка, прамым быў і сам выступ, без дэмагогіі і рытуальшчыны.

Кірыл Руды сфармуляваў пяць прычын, чаму рэформаў наўрад ці варта чакаць у 2016-м, і тры перадумовы для іх правядзення. Прыводзім тэзісы Рудага.


Сяргей Гудзілін

### Пяць прычын, чаму...

1) Відавочнага грамадскага запыту на рэформы няма.

Непазбежнасць рэформаў відавочная для эканамістаў. Але ў насельніцтва рэформы асацыююцца з рэформамі часоў развалу СССР. Тое, што адбываецца ў Беларусі, цяжка параўнаць з сітуацыяй у Саюзе ў 80-х. У людзей адно пытанне: навошта? Для тых, хто прымае рашэнне, патрэба рэформаў таксама не відавочная. Тым больш да іх інфармацыя часам даходзіць са скажэннямі, сказаў Руды.

2) «Рэформы праводзяцца, калі няма грошай».

А грошы ў бюджэт прыходзяць. Сказаць, што грошай няма ў краіне, было б перабольшаннем. Збіраюцца падаткі, вядуцца перамовы аб крэдыце МВФ. Таму неабходнасці тэрміновых зменаў таксама няма і ў людзей, што прымаюць рашэнні, няма разумення неабходнасці рэформаў.

**Кастрычніцкі эканамічны форум**

штогадовая канферэнцыя эканамістаў і практыкаў. Яе арганізуе Даследчы цэнтр ІПМ і іншыя недзяржаўныя аналітычныя інстытуты. Сярод выступоўцаў на форуме — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Мікалай Снапкоў, памочнік прэзідэнта Кірыла Руды і віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі.

3) Для рэформаў патрэбны знешні стымул.

Для краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы такім стымулам было ўступленне ў Еўрасаюз.

А ў Беларусі вонкавага стымулу для рэформаў няма. Беларусь даказала, што, калі на яе аказваюць знешні ціск, вынік атрымліваецца процілеглы, зазначыў Руды.

4) Існуе кадравы дэфіцыт.

Перагрузка бягучымі праблемамі не пакідае сіл для прыняцца стратэгічных рашэнняў. «Хто ва ўрадзе мае вопыт працы ў рынкавых умовах? Трэба адрозніваць заходні гарнітур ад заходніх мазгоў», — афарыстычна сказаў Руды. «У нас ёсць шмат граматных фінансістаў, эканамістаў, інжынераў, якія здольныя правесці рэформы. Але як яны будуць ужывацца з сілавікамі старой школы ці гаспадарнікамі?» — намякнуў ён на тое, якія сілы выступаюць супраць перамен.

5) Руды паскардзіўся і на штучнае нагнятанне негатыўнай рэакцыі накшталт «гэтыя рэфарматары ў 1990-х давялі краіну да ручкі».

Як толькі гучыць тонкі голас рэфарматараў, адразу чуваць хор крытычных галасоў людзей, якія баяцца, што ўсё распрададуць. Між тым рэфарматары 90-х ліквідавалі таварны дэфіцыт і не дапусцілі голаду, нагадаў Руды.

### Што трэба для рэформаў?

Руды сфармуляваў таксама тры перадумовы для таго, каб рэформы адбыліся і каб яны былі паспяховымі.

1) Патрэбны шырокі грамадскі запыт на рэформы і падтрымка рэформаў.

Калі няма грамадскага запыту на рэформы — гэта не значыць, што няма запыту на лепшае жыццё, адзначыў Руды. І гэтае лепшае жыццё нельга пазычыць, пераклаўшы пазыкавы цяжар на будучыя пакаленні, нагадаў ён.

2) Гэты запыт на рэформы павінен сыходзіць ад сярэдняга класа.

А колькі ён складае ў Беларусі? Ён няўстойлівы. У 2014 ён складаў 49%, у 2015 скараціўся да 39% (ацэнкі НДЭІ Міністэрства эканомікі).

Задача ўрада — гадаваць сярэдні клас, у тым ліку падтрымкай малога і сярэдняга бізнэсу, і тут шмат чаго робіцца, што раней лічылі немагчымым.

3) З'явіўся пакаленчы зрух ва ўрадзе, у эканамічных міністэрствах, у Нацбанку, адзначыў Руды. Прычым ён не толькі пакаленчы, але і ментальны.

Руды ўзгадаў і пазітывы. Расце прыватны сектар, растуць замежныя інвестыцыі. Скарацілася доля сельскай гаспадаркі, прамысловасці ў ВУП. Значыць, структура эканомікі мяняецца. Вызначаюцца новыя прыярытэты, і туды ўкладаюцца рэсурсы. Аднак рэформы ідуць рэактыўна, прызнаў Руды.

Канчатковы адказ на пытанне, «ці адбудуцца рэформы», Руды параіў шукаць у афіцыйных дакументах і выступах кіраўніка дзяржавы. Ёсць маса рацыянальных і ірацыянальных фактараў, што ўплываюць на гэтае рашэнне, сказаў дарадца прэзідэнта па эканоміцы.

Але калі будзе пагаршэнне сітуацыі, то рэакцыя будзе, і яна будзе хуткая, паабяцаў Кірыл Руды.

**Ягор Марціновіч, Мікола Бугай**

**«Ёсць адназначнае рашэнне пра паслядоўныя эвалюцыйныя змены на аснове пераемнасці»**

— Вы можаце адназначна сказаць, усё ж будуць рэформы ў краіне, ці не? — спыталіся журналісты ў намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Мікалая Снапкова.

— А вы можаце адназначна сказаць, што яны не праходзяць? — адказаў пытаннем на пытанне Снапкоў.

— Я вас правільна разумею, што няма адназначнага рашэння, ці будзе краіна праводзіць рэформы?

— Ёсць адназначнае рашэнне пра паслядоўныя эвалюцыйныя змены на аснове пераемнасці. І без ломкі.

### Дзе варта быць

**Міжнародная канферэнцыя «Вялікае Княства Літоўскае: палітыка, эканоміка, культура».**

Канферэнцыя пройдзе 5—6 лістапада. Яе ладзіць Акадэмія навук супольна з Нацыянальнай бібліятэкай, Польскім інстытутам у Мінску, Дзяржаўным і Педагагічным універсітэтамі. Што цікава, у канферэнцыі сярод дзясяткаў навукоўцаў возьмуць удзел таксама сенатар Марзалюк і журналіст Гігін, вітаць удзельнікаў будуць генпракурор Канюк і кіраўнік НАН акадэмік Гусакоў.




### Сцісла

**Мітрапаліт Павел: Няма сэнсу змяняць аблічча храмаў**

Так праваслаўны іерарх адказаў на пытанне, як ён ставіцца да таго, што апошнім часам у многіх гарадах і вёсках аўтэнтычныя купалы старых беларускіх цэркваў замяняюць на пазалочаныя купалы-цыбуліны (выпадак у Слоніме быў апісаны ў №40).

**Купчына перадала паслу Швецыі збор твораў Алексіевіч**

Намесніца міністра замежных спраў Беларусі выканала даручэнне Аляксандра Лукашэнкі.

**Японцы стварылі «сталёвае» шкло**

Спецыялісты Універсітэта Токіа пры вырабе шкла павялічылі колькасць аксіду алюмінію, які адказвае за трываласць матэрыялу. Атрыманае шкло ўдвая больш трывалае, чым звычайнае. Распрацаваны матэрыял у аўто абароніць ад негатыўных наступстваў аварый, а тэлефоны нарэшце атрымаюць нябіткі дысплей.

**Чэмпіёнка-лёгкаатлетка Балыкіна, найхутчэй, забітая**

2 лістапада знікла лёгкаатлетка Юлія Балыкіна — шматразовая чэмпіёнка Беларусі ў спрынце, удзельніца Алімпіяды-2012. 31-гадовая Юлія працавала дзіцячым трэнерам пры таварыстве «Дынама». У дзяўчыны развіваліся адносіны з Дзмітрыем В., якога сёння падазраюць у яе забойстве.

**Беларускія дэсантнікі перамаглі**

У Карэі прайшлі VI Сусветныя вайскова-спартовыя гульні, у якіх узялі ўдзел вайскоўцы больш чым са 100 краін. Зборная беларускіх Узброеных Сіл заваявала залатыя медалі ў парашутным спорце. Яны перамаглі ў каманднай дакладнасці прызямлення.

**АГ, ЯМ**

### Апытанні на nn.by

**Ці ўхваляеце Вы святкаванне Хэлоўіна?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 167 | 13% |
| Не | 612 | 47% |
| Хай моладзь весяліцца | 399 | 30% |
| Якая розніца | 135 | 10% |

Прагаласавала 1313 чалавек

### Самае чытанае на nn.by за 28 кастрычніка — 3 лістапада

1. Супраць каго збіраюцца ваяваць «воіны Хрыста»?
2. «Шукаю дзяўчыну, у якую закахаўся з першага погляду на Дзядах»
3. 150 чалавек выйшлі да будынка КДБ у Мінску са свечкамі
4. У расійскім самалёце загінула сямейная пара беларусаў
5. На саборы ў Слоніме купал у беларускім стылі замянілі на залатую цыбуліну
6. У Егіпце разбіўся расійскі самалёт з 217 турыстамі, сярод іх беларусы
7. Сярод загінулых у авіякатастрофе ў Егіпце — 28-гадовы беларус
8. У Мінску прайшло шэсце на Дзяды
9. Хто такая «та дэвушка Сцюшка»
10. Пад апошнім фота сям'і, якая загінула ў авіякатастрофе, адзначыліся больш за 500 тысяч чалавек

# Затрыманы сенатар-мільянер з Гродна Андрэй Паўлоўскі

**Супрацоўнікамі КДБ арыштаваны член савета рэспублікі, бізнэсмен Андрэй Паўлоўскі. Яго абвінавачваюць у нясплаце падаткаў у памеры 144 мільярды рублёў ($8,5 мільёна даляраў).**



Як паведамляе КДБ, злачынная схема была распрацавана і рэалізоўвалася па ініцыятыве кіраўніцтва групы кампаній «Біякам», у ёй быў задзейнічаны шэраг падкантрольных замежных камерцыйных структур з васьмі краін. Члены савета рэспублікі пагадзіліся пазбавіць недатыкальнасці свайго калегу, сенатара Андрэя Паўлоўскага (займае 26-е месца ў рэйтынгу самых уплывовых і паспяховых бізнэсменаў Беларусі; 2-е месца ў аналагічным рэйтынгу Гродзенскай вобласці).

«Наша Ніва» сабрала пяць фактаў з жыцця багатыра, які трапіў у няласку.

### Медык у медыцынскім бізнэсе

Маладосць 48-гадовага пінчука Андрэя Паўлоўскага прыйшлася на час пераменаў — развал СССР і незалежнасць Беларусі. Ён якраз скончыў Санкт-Пецярбургскую ваенна-медыцынскую акадэмію і, адслужыўшы ў войску, уладкаваўся старэйшым лабарантам на кафедру акушэрства і гінекалогіі Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.

Зарплаты ў сферы аховы здароўя былі мізэрнымі, і Паўлоўскі вырашыў не сядзець на месцы. Як чалавек, абазнаны ў медыцыне, 25-гадовы прадпрымальнік стварыў кампанію «Біякам», якая займалася аптовым гандлем медыцынскімі прэпаратамі.

Цікава, што і другі гродзенскі мільянер, Валянцін Байко, таксама прыйшоў у бізнэс з бюджэтнай сферы — ён быў настаўнікам.

### Арыентацыя на сельскую гаспадарку

Неўзабаве Паўлоўскі пераарыентаваў продажы на сельскую гаспадарку, але захаваў «медыцынскі» профіль. «Біякам Агра» прадаваў ветэрынарныя прэпараты, кармавыя дабаўкі і заатэхнічны інструмент. З цягам часу кампанія стала адным з найбуйнейшых пастаўшчыкоў на прадпрыемствы Міністэрства сельскай гаспадаркі.

Вытворчасцю Паўлоўскі заняўся ў канцы 2000-х, калі пабудаваў некалькі заводаў. Ён арганізаваў стварэнне замяняльнікаў цэльнага малака, вытворчасць кармоў, а таксама дзіцячага харчавання.

Група кампаній «Біякам» разгорталася па ўсёй Гродзеншчыне. Паўлоўскі інвеставаў у малочную вытворчасць, стаўшы акцыянерам ваўкавыскага «Беллакта», Шчучынскага масласырзавода і агракамбіната «Скідзельскі».

Дзяржава спрабавала павесіць на «Біякам» стратныя калгасы, аднак Паўлоўскі адмаўляўся да апошняга.

### У тандэме з Песцісам

Доўгія гады гродзенскія аграрыі былі прадстаўленыя ў савеце рэспублікі ў асобе Вітольда Песціса, нязменнага (ажно з 1995 года!) рэктара Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта. Ён засядаў у верхняй палаце парламента з 2000 да 2012 года. Дарэчы, Песціс з'яўляецца аўтарам ідэі стварэння «партыі ўлады» — «Белай Русі».

Апошнім часам месца Песціса ў савеце рэспублікі заняў Паўлоўскі. Бізнэсмен лічыцца прадстаўніком ад Ваўкавыскага, Дзятлаўскага і Слонімскага раёна.

Адметна, што Песціс стаў... ягоным памочнікам. Яшчэ адзін памочнік, Аляксандр Высоцкі, падначалены Паўлоўскага ў «Біякаме».

### Колькі зарабляў Паўлоўскі

Некаторыя з кампаній, да якіх мае дачыненне бізнэсмен, маюць адкрытую справаздачнасць.

Напрыклад, за першае паўгоддзе 2015 года «Біякам» меў чысты прыбытак памерам $680 тысяч. Папярэднія гады былі для Паўлоўскага больш паспяховыя. У 2014 годзе «Біякам» прынёс яму $10,5 мільёна, за год да таго — яшчэ $13 мільёнаў.

За гэты ж час агракамбінат «Скідзельскі», у якім Паўлоўскі меў чвэрць акцый, атрымаў чысты прыбытак памерам каля $4 мільёнаў.

### Падобна да справы «Консула»?

Паводле інфармацыі Tut.by, Паўлоўскага падазраюць у нясплаце падаткаў. Падрабязнасцяў справы пакуль няма, аднак сітуацыя нагадвае тую, у якой аказалася тыдзень таму кіраўніцтва брэсцкай кампаніі «Консул».

«Консул» займаўся пастаўкамі імпартных харчовых дабавак і абсталявання для аграпрамысловага комплексу (той жа профіль бізнэсу, што і ў Паўлоўскага). «Выкарыстоўваючы больш за 40 падкантрольных фірмаў, арганізатары выводзілі за мяжу валюту, ухіляліся ад выплаты падаткаў і рэалізоўвалі прадукцыю канчатковаму спажыўцу з завышэннем цэнаў да трох разоў», — адрапартавала прэс-служба КДБ.

Нагадаем, за апошнія паўтара года недатыкальнасці пазбавіліся адразу тры сенатараў. Магілёўскага бізнэсмена Віталя Кастагорава абвінавацілі ў нясплаце падаткаў. Праз некалькі месяцаў зняволення ён заплаціў каля 350 тысяч еўра і выйшаў пад падпіску аб нявыездзе. Дырэктарка віцебскай птушкафабрыкі Ганна Шарэйка падазраецца ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. Паводле версіі следства, яна закупляла імпартны камбікорм, а не айчынны.

**Ягор Марціновіч**

# Пяць версій, што можа хавацца за крымінальнай справай аб праслушцы, якую завёў КДБ

**Камітэт дзяржаўнай бяспекі паведаміў аб затрыманні арганізатараў групы, якая займалася праслухоўваннем больш чым 2 тысяч беларусаў — прадстаўнікоў улады, бізнэсу і СМІ.**

Паводле прэс-службы КДБ, злачынцы мелі больш за 1,5 тысячы замоўцаў. Пакуль мала інфармацыі, хто менавіта быў замоўцамі гэтага праслухоўвання і што хаваецца за гэтай гісторыяй. «Наша Ніва» сабрала найбольш імаверныя версіі.

### Фэйк?

Здзіўляць страшылкамі беларускія сілавікі здольныя. Шмат жа хто памятае «дохлых пацукоў», якімі хацелі атруціць сталіцу перад выбарамі 2006, паводле Сцяпана Сухарэнкі. Перад гэтымі выбарамі была інфармацыя пра 200 затрыманых украінцаў, якія з бітамі ехалі на беларускія выбары. І дзе ж тыя ўкраінцы?

Былы кіраўнік Фрунзенскага аддзела КДБ у Мінску Аляксандр Баганёў такой версіі не выключае. «Наўскідку я думаю, што гэта чарговая справа, каб даць электарату «пажыву». Даўно ж нічога такога не было. Выбары ж наватпрайшлі адносна ціха».

Групоўка дзейнічала на працягу трох гадоў, слухалі чыноўнікаў і сілавікоў, а пра іх КДБ нічога не ведаў. Няўжо такое бывае?

Кінулася ў вочы тое, што ў памяшканні, дзе нібыта затрымлівалі падазраваных, стаялі статуэткі Феміды. Ну вось скажыце: ці шмат хто іх трымае ў сваіх офісах і дамах?

### Спіхнуць «жучок» Лябедзькі?

Часам здараецца так, што самыя прымітыўныя версіі таксама маюць права на існаванне.

Зусім нядаўна лідары апазіцыі Анатоль Лябедзька, Уладзімір Някляеў і Мікалай Статкевіч выявілі «жучок» праслухоўвання ў сурвэтніцы ў кавярні «Салодкі фальварак».

Калі стала вядома пра крымінальную справу па праслушцы, то многія паўжартам напісалі ў фэйсбуку: «Зараз на іх «жучок» Лябедзькі павесяць». Маўляў, не мы праслухоўваем, а нейкія нелегалы.

### Шпіянаж?

Звяртае ўвагу, што сярод тых, каго праслухоўвалі, вельмі шмат дзяржаўных служачых і сілавікоў, практычна з усіх ведамстваў. Гэта і наводзіць на думку аб магчымым замежным следзе ў справе. Ці магла замежная разведка карыстацца паслугамі прыватнай кампаніі на тэрыторыі Беларусі?

Мы папрасілі пракаментаваць гэтую версію былога супрацоўніка МУС, заснавальніка сайта *Belarus Security Blog* Андрэя Паратнікава. «Тэарэтычна замежныя выведкі маглі карыстацца паслугамі гэтых людзей, «замаўляючы» ім пэўных дзяржслужбоўцаў. Але шукаць тут наўпроставую руку замежнай




сталіцы пакуль падстаў няма. За мяжой такія выпадкі не рэдкасць: нелегальнае сачэнне, крадзеж ці здыманне інфармацыі — частка незаконнага бізнэсу ў шмат якіх краінах. Але гэта менавіта крымінал. Якім, праўда, тэарэтычна могуць скарыстацца і спецслужбы. Каб не свяціцца самім. Тым больш што часта паслугі крымінальнікаў атрымліваюцца таннейшымі за аператыўную працу саміх разведчыкаў. І вынік можна атрымаць хутчэйшы, бо бюракратыі значна менш».

### Разборка паміж спецслужбамі?

Нярэдка перад важнымі кадравымі перастаноўкамі ў сілавым блоку можна назіраць дастаткова дзіўныя крымінальныя справы. Перад самым звальненнем былога кіраўніка КДБ Вадзіма Зайцава была заведзеная крымінальная справа па артыкуле «Здрада Радзіме» супраць навапалацкага слесара Андрэя Гайдукова. Як вядома, урад падаў у адстаўку, новы яшчэ не прызначаны, не выключаныя перастаноўкі і ў сілавым блоку.

Аляксандр Баганёў дапускае і такое. «Можа быць перакрыкаванне інтарэсаў спецслужб. Праслушкай жа займаецца і ДФР, і міліцыя, і ААЦ, і служба бяспекі прэзідэнта. Я не выключаю, што мог пракалоцца нехта з іх, а цяпер маўчыць. Калі гэта так, то справу павінны спусціць на тармазах».

### Рэўнасць? Крымінал?

Лічбы ў гэтай крымінальнай справе ўражваюць. Аж 1500 замоўцаў за тры гады. Гэта больш чым па адной замове ў дзень. Цікава, вось вашы ўласныя сябры і знаёмыя маглі карыстацца такімі паслугамі? Выказваецца меркаванне, што праслушку мог заказваць раўнівы муж на жонку. Але, як кажуць спецыялісты, набыць адмысловае прыстасаванне для гэтага можна нават на Ждановічах. Ці шмат такіх апантаных людзей, што будуць з гэтым звяртацца да адмыслоўцаў?

Аляксандр Баганёў, які шмат гадоў прапрацаваў у КДБ, таксама адкідвае версію з крыміналам. «У нас яго няма, арганізаванага крыміналу. Можа, канечне, нейкая групоўка пачала падымаць галаву, але гэта вельмі непраўдападобна».

Дэклараваны спіс аб'ектаў для праслухоўвання — супрацоўнікі дзяржорганаў, сілавікі, дзяржаўныя і недзяржаўныя журналісты — наводзіць на думку пра магчымы след замежнай разведкі ў гэтай справе. Бо калі б гаворка ішла пра звычайную фірму, то хто мог быць яе кліентамі? Жонка — на мужа, партнёр па бізнэсе — на партнёра.

Але ў той жа час КДБ заявіў пра 1500 замоўцаў. Абсалютна нерэальная ў беларускіх умовах лічба. Менавіта таму эксперты не выключаюць нейкую больш складаную гульню спецслужбаў ці фэйк. Увогуле, беларускім спецслужбам больш уласціва хаваць інфармацыю, чым публікаваць.

**Зміцер Панкавец**

# Свечкі на прыступках КДБ

29 кастрычніка Мікалай Статкевіч правёў яркую акцыю ў цэнтры сталіцы.

Выбары скончыліся, а разам з імі і перыяд, калі беспакарана можна было праводзіць вулічныя акцыі. Так думалася многім. Нават Лукашэнка падчас сустрэчы з журналістамі на выбарчым участку 11 кастрычніка недвухсэнсоўна адзначыў, што вольніца скончылася. Вяртаемся да старых парадкаў.

Таму 29 кастрычніка было трывожна. Будзе разгон ці не? Да дорага звыкаешся хутка. А ў той дзень яшчэ Еўрасаюз на чатыры месяцы прыпыніў санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў. Як гэта паўплывае, гадалі журналісты.

29 кастрычніка — невыпадковая дата. Менавіта ў гэты дзень у 1937 годзе ў турме НКВД было расстраляна 100 чалавек. І ўсё гэта эліта нацыі: навукоўцы, пісьменнікі, святары, чынавенства, выкладчыкі.

«Толькі за тры восеньскія месяцы ў 1937-м органы забілі больш за 600 грамадскіх, культурных, рэлігійных дзеячаў Беларусі, а ў перыяд са жніўня 1937 па снежань 1938 — звыш 10 тысяч чалавек! Ніводзін перыяд еўрапейскай гісторыі не дараўнаецца з гэткімі стратамі інтэлектуальных элітаў», — лічыць мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі.

Удзельнікі пачалі збірацца ў скверы каля бюста «жалезнаму Феліксу», праз дарогу ад КДБ. Але прыйшоў Мікалай Статкевіч і павёў усіх непасрэдна да самога будынка. Людзей у цывільным было шмат, з рацыямі, яны фіксавалі, што будзе адбывацца далей, але ніяк не ўмешваліся.

Паціху пачалі збірацца ўдзельнікі акцыі. Маладафронтаўцы прынеслі свечкі з лампадкамі, сталі запальваць іх проста на прыступках перад галоўным уваходам у КДБ. Зноў ніякай рэакцыі сілавікоў.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
86-гадовы мужчына прыйшоў з партрэтам рэпрэсаванага бацькі.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
Двухгадовы сын маладафронтаўца Мікалая Дземідзенкі ставіць свечку памяці.

Агулам на акцыю памяці, на якую Статкевіч адмыслова прасіў прыходзіць без сцягоў, сабралася 160 чалавек. Яны сталі ў доўгую лінію паралельна праспекту Незалежнасці. Амаль кожны трымаў у руцэ знічку. Выглядала эфектна.

Прыходзілі розныя людзі: і моладзь, і старыя. 86-гадовы дзядуля прыйшоў з партрэтам бацькі, якога арыштавалі ў 1940-м годзе за «антысавецкую прапаганду» ў Заходняй Беларусі, куды ён пераехаў з Мінска, каб будаваць калгасы. Прыйшоў дысідэнт Валерый Шчукін, які трымаецца камуністычных поглядаў, але перакананы, што за сталінскія рэпрэсіі па сёння ніхто не адказаў.

Ужо стала традыцыяй, што на складанне пратаколаў супраць Статкевіча, Някляева і Лябедзькі адпраўляюць двух маладых афіцэраў МУС (адных і тых жа), але на іх ніхто не звяртае ўвагу. «Хто вашымі дзядамі былі?» — крычалі бабулі на міліцыянтаў, апелюючы да іх сумлення. «Расстрэльвалі ў 37-м», — чулася ў адказ ад іншых удзельнікаў.

Агулам акцыя доўжылася дзесяці паўгадзіны. Напрыканцы ўдзельнікі паставілі свечкі на ганак КДБ. Некалькі гадзін пасля завяршэння іх ніхто не прыбіраў.

**Зміцер Панкавец**

# На Дзядах неслі партрэты рэпрэсаваных пісьменнікаў

1 лістапада ў Мінску адбылося традыцыйнае шэсце на Дзяды, якое арганізоўвала КХП-БНФ.

Блізу 500 чалавек з бела-чырвона-белымі сцягамі прайшлі ад парку Чалюскінцаў да Курапатаў, каб ушанаваць памяць закатаваных за Саветамі беларусаў.

Дзесьці палову ад удзельнікаў акцыі складала моладзь. Былі і хлопцы, якім на выгляд не дасі і 18 гадоў. Яны хавалі твары ад камер журналістаў, але ахвотна гаварылі без іх.

«Хоць мы і маладыя, але прыйшлі выказаць сваю пазіцыю, паказаць, што такі боль не забываецца, што мы ўсё памятаем і шануем памяць продкаў», — сказалі яны журналісту «НН».

Шмат хто прызнаваўся, што ягоныя сваякі прайшлі праз рэпрэсіі — то дзед, то прадзед, то яшчэ хто. Асабліва ахвотна пра гэтыя рэпрэсіі расказвалі людзі сталага веку, якія памятаюць шмат таго, чаго моладзь на сваё вочы не бачыла.

У агульным Дзяды-2015 паўтаралі сабою папярэднія, але кідалася ў вочы і тое, чаго раней не было — некаторыя ўдзельнікі шэсця неслі ў руках фотаздымкі зацкаваных і забітых дзеячаў беларускага руху: Усевалада Ігнатоўскага, Платона Галавача, Міхася Зарэцкага ды іншых.

Таксама цікава было назіраць, як прадстаўнікі сілавых структур спрабавалі маскіравацца пад шараговых удзельнікаў шэсця, начапіўшы на сябе бел-чырвона-белыя стужкі і забыўшыся дастаць з аднаго вуха навушнік. У інтэрнэце такія здымкі сустракалі старым жартам: «Вы ці крыжык здыміце, ці трусы адзеньце».

У Курапатах зачыталі зварот Зянона Пазняка, які вінаваціў тагачасныя маскоўскія ўлады ў знішчэнні цвету беларускай нацыі, а таксама казаў, што калі б тыя сотні тысячаў забітых у Курапатах людзей падняліся і рушылі ў Мінск, то назаўтра б мы жылі ў іншай краіне.

**Арцём Гарбацэвіч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН
Удзельнікі Дзядоў-2015.

# Былы старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч вярнуўся з Расіі ў Беларусь

Цяпер ён працуе ў «Газпрамнафце».

Газета «Народная воля» расшукала былога старшыню КДБ Уладзіміра Мацкевіча, ён зноў жыве ў Мінску. «Я засумаваў па радзіме, таму вырашыў вярнуцца. Зрэшты, тут я асабліва нікому, апроч сяброў і блізкіх, не патрэбны», — сказаў Мацкевіч.

Цяпер ён працуе дарадцам у кампаніі «Газпрамнафта». Ад вялікага інтэрв'ю для «Народнай волі» Мацкевіч адмовіўся: «Мой час прайшоў, я гэта разумею. Не хачу ўжо ніякіх сенсацый».

Экс-кіраўнік КДБ адзначыў, што ў ведамстве, якое калісьці ўзначальваў, бывае нячаста. А радуе яго сёння найбольш унучка, якая скончыла ўніверсітэт у Боне (Германія) па спецыяльнасці «арганізацыя і эканоміка турыстычнага бізнэсу». Ці будзе вяртацца яна ў Беларусь, Мацкевіч адказаць не змог.

Уладзімір Мацкевіч нарадзіўся ў 1947 годзе ў Мар'інай Горцы. У органах дзяржбяспекі ад 1976. Ад 20 снежня 1995 да лістапада 2000 — старшыня КДБ. Сышоў Мацкевіч з КДБ пасля таго, як разам з былым генпракурорам Алегам Бажэлкам санкцыянаваў затрыманне камандзіра часці спецназа 3214 Дзмітрыя Паўлічэнкі па справе зніклых палітыкаў. Мацкевіч і Бажэлка тады прыходзілі да Аляксандра Лукашэнкі з прапановай арыштаваць дзяржсакратара Рады Бяспекі Віктара Шэймана.

Пасля гэтага Мацкевіч быў паслом Беларусі ў Югаславіі. А пасля сканчэння дыпламатычнай працы з'ехаў на заробкі ў Расію, працаваў дарадцам у кампаніі «Саўкамфлот», якая спецыялізуецца на дастаўцы нафтапрадуктаў па моры.

З былых кіраўнікоў КДБ Беларусі ў Расіі працягвае жыць Леанід Ерын, які працуе дарадцам кіраўніка Расійскай чыгункі. Таксама ў Расіі знаходзіцца былы кіраўнік МУС Уладзімір Навумаў. Варта адзначыць, што некалькі гадоў назад у Беларусь з расійскіх заробкаў вярнуўся таксама былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў.

**ЗП**

# Сацыёлагі: Адносная большасць беларусаў не хоча размяшчэння расійскай авіябазы

Гэта паказала апытанне, праведзенае Беларускай аналітычнай майстэрняй.

Праўда, вялікая доля людзей яшчэ не чула пра гэты намер, што робіць грамадскую думку патэнцыйна зменлівай.

Як расказаў «Нашай Ніве» прафесар Андрэй Вардамацкі, на пытанне «Ці чулі Вы, што Расія збіраецца размясціць на тэрыторыі Беларусі вайсковую авіябазу» «так» адказалі 53.1% апытаных, не — 46,2%. Іншыя мелі цяжкасці з адказам.

Пытанне «Як Вы ставіцеся да рашэння размясціць на тэрыторыі Беларусі расійскую авіябазу» задавалі толькі тым, хто раней чуў пра яе.

Адказы размеркаваліся наступным чынам, %:

| | |
|---|---|
| Цалкам адмоўна | 18,8 |
| Хутчэй адмоўна | 20,8 |
| Ні адмоўна, ні станоўча | 20,8 |
| Хутчэй станоўча | 16,0 |
| Цалкам станоўча | 14,6 |
| Цяжка сказаць / адмова ад адказу | 9,0 |

**Мікола Бугай**

# Якія дэпазіты цяпер самыя выгадныя

Пры захоўванні грошай абсалютная большасць беларусаў аддае перавагу замежнай валюце. Насельніцтва краіны трымае ў банках дэпазітаў у далярах/еўра/расійскіх рублях на $8,3 мільярда. Рублёвых дэпазітаў — усяго $2,4 мільярда ў эквіваленце.

Для параўнання, год таму лічбы складалі $7,7 і $4,2 мільярда адпаведна, аднак які-ніякі давер да нацыянальнай валюты быў падарваны чарговымі дэвальвацыямі.

Якімі стаўкамі банкі цяпер заваблівають кліентаў?

Прыбытковасць стаўкі па дэпазітах у беларускіх рублях фактычна абмежаваная 30% гадавых. Такую прапанову маюць некаторыя прыватныя банкі: напрыклад, «Ідэя-Банк», «Альфа-Банк» і іншыя.

Для даляраў і еўра максімальная прыбытковасць дасягае 5—5,5% — напрыклад, «Скарбонка» ад ВТБанка.

Прамежкавае рашэнне — дэпазіт у расійскіх рублях. Многія беларускія банкі называюць гэтую валюту «абмежавана канвертаванай». Уклад у расійскіх рублях можна зрабіць пад 14% (прапанова ад «Абсалютбанка»).

**Ягор Марціновіч**

## У чым сакрэт рэйтынгу Doing Business

**Беларусь упала, але ўзнялася.**

У сусветным рэйтынгу па ўмовах вядзення бізнэсу *Doing Business* — 2016 Беларусь трапіла на 44-е месца са 189-і краін. Беларускія ўлады надаюць гэтаму спісу істотнае значэнне, у праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на пяцігодку была пастаўленая мэта трапіць у трыццатку найлепшых.

Дзяржаўныя СМІ радасна адрапартавалі аб значным паляпшэнні сітуацыі і чарговым кроку наперад, бо летась заяўлялася, што Беларусь знаходзілася на 57-м месцы.

Аднак што адбылося ў рэальнасці? Стваральнікі рэйтынгу штогод удасканальваюць методыку падліку. Цяпер па-іншаму сталі трактаваць «наяўнасць бар'ераў у замежным гандлі» і «падключэнне да сістэмы электразабеспячэння». Дзякуючы пераразліку, у леташнім рэйтынгу Беларусь узнялася з 57-га месца на 43-е.

А якраз-такі за апошні год Беларусь апусцілася ў спісе на адну пазіцыю.

**ЯМ**

## Беларусы атрымалі $100 тысяч за персанальны сканер стану зубоў

Распрацоўка беларусаў — партатыўны зубны сканер *Toothscan* — атрымала Гран-пры і прыз у $100 тысяч на конкурсе інавацыйных праектаў у Варшаве.

Праект стартапа *Tesla Studios* дазваляе выяўляць праблемы з зубамі на ранняй стадыі, каб мінімізаваць выдаткі на стаматолага. Вонкава гаджэт выглядае як звычайная зубная шчотка. Вы праводзіце ёю ўздоўж зубоў, яна скануе паверхню і перадае атрыманыя дадзеныя на спецыяльную праграму для мабільнікаў-смартфонаў.

Там вы бачыце існуючыя праблемы, а таксама магчымае рашэнне для іх ліквідацыі. Часта праблему можна выявіць на ранняй стадыі і істотна ашчадзіць на паходзе да лекара.

**Чытайце 42.tut.by**








**Дзмітрый Марозаў (злева) — кіраўнік стартапа, Сяргей Хурс (справа) адказвае за тэхнічны бок. Таксама ў камандзе Ігар Бутурля (галоўны дызайнер) і Дзяніс Дыбскі, які адказвае за маркетынг.**

## Міністр сельскай гаспадаркі: Фермеры сёння працуюць эфектыўней за сельгаспрадпрыемствы

Фермерскія гаспадаркі працуюць больш эфектыўна, чым сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, сказаў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Леанід Заяц на пасяджэнні парламента.

«Эфектыўнасць фермерскіх гаспадарак на 8% вышэйшая, чым сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у цэлым», — сказаў міністр, адказваючы на пытанне дэпутата Мікалая Іванчанкі.

Паводле звестак міністра, у Беларусі цяпер больш за 2,9 тыс. фермерскіх гаспадарак. Яны даюць усяго 2% ад валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі па краіне, а выкарыстоўваюць 1,9% сельгасугоддзяў.

Дзяржава аказвае падтрымку фермерам, праўда, невялікую, меншую, чым вялікім гаспадаркам.

**Паводле БелТА**

# А скуранкі былі несапраўдныя

У верасні ў Мінску быў выяўлены факт продажу куртак са скуразамяняльніка пад выглядам скураных. Цяпер стала вядома, што суд Першамайскага раёна Мінска аштрафаваў прадпрымальніка з Гродна больш чым на 80 мільёнаў рублёў.

Курткі былі кітайскія. Але ў той куртцы будзе і не так цёпла, і цела не дыхае.

Інспектары прызналі, што прадпрымальнік Мікота С.Л. «даводзіў да спажыўцоў няпоўную і няпоўную інфармацыю аб паходжанні тавару, яго складзе, найменні, неіснуючым зніжэнні цаны». Былі допушчаныя і іншыя парушэнні правілаў продажу асобнай прадукцыі.

«За час праверкі прадпрымальнік змог знайсці дакументы толькі на невялікую частку тавару», — паведаміла супрацоўніца гандлёвай інспекцыі па Мінскай вобласці Міністэрства гандлю Алена Паміцінская.

Нагадаем, што апошнімі часамі часта з'яўляюцца аб'явы аб грандыёзных распродажах скураных рэчаў. Мяняюцца толькі месцы правядзення акцый і прадпрымальнікі, якія іх праводзяць. Але схема ва ўсіх аднолькавая: тавар без дакументаў сумнеўнай якасці насамрэч прадаюць даражэй за першапачатковую цану.

**СГ; інф. Tut.by**

# Прорва паміж Нясвіжам і Нароўляй

Дзе зямля дае **найбольш збожжа**?

Сёлетні ўраджай беларускіх калгасаў аказаўся горшы за леташні. Тады, па афіцыйных звестках, намалацілі 9,3 мільёна тон збожжа, а цяпер — 8,7 мільёна тон.

Затое ўраджайнасць хоць нязначна, але вырасла. У сярэднім атрымалася 39,6 цэнтнера з гектара. Як так магло быць? Ну, вось такая статыстыка.

Унёсак кожнага з рэгіёнаў у агульны каравай зноў моцна адрозніваецца. Лідары абганяюць аўтсайдараў у 5,5 раза.

Прычынай была ў тым ліку ў моцнай сушы на ўсходзе краіны.

| | |
|---|---|
| 1. Нясвіжскі | 72,9 |
| 1. Гродзенскі | 72,9 |
| 3. Карэліцкі | 68,7 |
| 4. Берастаўіцкі | 63,3 |
| 5. Дзяржынскі | 61,1 |
| 6. Зэльвенскі | 60,3 |
| 7. Мінскі | 58,6 |
| 8. Клецкі | 57,6 |
| 9. Баранавіцкі | 55,3 |
| 10. Мастоўскі | 55,1 |

| | |
|---|---|
| 109. Расонскі | 25,8 |
| 110. Калінкавіцкі | 25,5 |
| 111. Петрыкаўскі | 24 |
| 112. Бабруйскі | 23,6 |
| 113. Жлобінскі | 23,5 |
| 114. Мазырскі | 23,4 |
| 115. Гарадоцкі | 22,6 |
| 116. Быхаўскі | 21,8 |
| 117. Глускі | 21,3 |
| 118. Нараўлянскі | 12,7 |

Ураджайнасць цэнтнераў з гектара

**Працяг тэмы**

## Экс-міністр Галаванаў скінуў $130 тысяч

Сям'я былога міністра юстыцыі Віктара Галаванава прадае катэдж у Драздах на ўчастку, атрыманым ад дзяржавы. «Наша Ніва» пісала падрабязнасці гэтай гісторыі ў №32 ад 26 жніўня 2015 года.

Чытач пацікавіўся: ці ўдалося экс-чыноўніку знайсці купца на сваю элітную нерухомасць?

Не, катэдж у Драздах па-ранейшаму выстаўлены на продаж. А праз адсутнасць попыту Галаванавы нават гатовыя істотна зменшыць цану. Раней сын былога міністра, які атрымаў дом у падарунак ад бацькі, прасіў за нерухомасць $1,4 мільёна. Цяпер жа гаспадары ацэньваюць катэдж на $1,27 мільёна.

**ЯМ**

## Украіна просіць Беларусь зняць абмежаванні

Неабходна тэрмінова зняць усе абмежаванні на пастаўку ўкраінскай прадукцыі, звязаныя з неабходнасцю праходжання працэдуры санітарна-гігіенічнай экспертызы, якая была ўведзена пастановай Саўміна Беларусі №666. Пра гэта падчас пасяджэння ўкраінска-беларускай працоўнай групы заявіла намесніца міністра эканамічнага развіцця і гандлю Украіны Наталля Мікольская. Яна расказала, што Украіна са свайго боку зняла абмежаванні на пастаўкі трактароў МТЗ, прадукцыі «Белкарда», «Белмедпрэпаратаў» і Барысаўскага завода медпрэпаратаў. Ва Украіне многія прадукты і тавары нашмат таннейшыя, чым у Беларусі, але ў нас у продажы іх не знайсці. У выхадныя тысячы людзей з Брэста, Гомеля і Лунінца ездзяць на закупы ў памежныя ўкраінскія гарады.

**СГ**

## Сцісла

**Сусветны банк прагназуе стагнацыю ў беларускай эканоміцы**

Паводле ацэнак Сусветнага банка, у 2015 годзе ВУП Беларусі знізіцца на 3,5%, у 2016 годзе — на 0,5%. На думку фінансістаў, павышэнне зарплат стане практычна немагчымае.

**Мінімальны заробак у Літве — 350 еўра**

Урад, працадаўцы і прафсаюзы Літвы дамовіліся, што з Новага года мінімальны заробак павысіцца з 325 да 350 еўра. Для параўнання, у Беларусі мінімальны заробак складае прыкладна 113 еўра.

**Філіял Мінскага завода вінаградных він спыніў працу**

Урад Беларусі скараціў квоты на вытворчасць алкаголю. У выніку адзін з філіялаў Мінскага завода вінаградных вінаў быў вымушаны цалкам спыніць працу. Кіраўніцтва прадпрыемства просіць вярнуць ранейшыя квоты, апелюючы да таго, што інакш 400 работнікаў да канца года застануцца без працы.

**Падаражэлі цыгарэты**

Цэны на большасць цыгарэт 1 лістапада выраслі на 3,7—12%.

**ЯМ**

# Дзённік самотніка

## У 78-м нумары часопіса «Дзеяслоў» апублікаваны дзённік Караткевіча

Піша **Віктар Марціновіч**.

Каб стаць сапраўды культавай, асобе трэба крыху аддаліцца ад нас, жывых, цёплых і мітуслівых. Адгарадзіцца музейнай вітрынай часу. Павінныя забыцца істотныя падрабязнасці.

Акалічнасці неістотныя павінны выцясніць галоўнае, перакруціўшы асобу і характар да міфалагічнай непазнавальнасці. Чым меней пры гэтым застанецца ад яго сапраўднага, тым больш каштоўнай будзе кожная захаваная дэталь. Рэальнасць мусіць стаць апокрыфам, а гэта праца не для людзей, а для вечнасці.

Дзённік Уладзіміра Караткевіча — рэч гэткая ж магічная і інтымная, як спірытычны сеанс з блізкім табе нябожчыкам. Вось ёсць пісьменнік, які за апошнія дзесяцігоддзі зрабіўся іконай. Пра яго размаўляюць у каварнях, байкі пра яго баяць у любым буйным горадзе, дзе разумеюць па-беларуску. Свой Караткевіч паўстаў у кожнага з нас. Мой Караткевіч быў такі: лірычны, вельмі чалавечны творца, які спрабаваў зрабіць наш свет больш добрым. Да таго ж вельмі паспяховы аўтар, кніжкі якога пры жыцці прадаваліся вялізнымі накладамі, творы якога экранізаваліся. Тусоўшчык кшталту Вялікага Гэтсбі. Пры гэтым крыху камічны ў сваіх сімпатыях да камуністаў, нават у «Чорны замак» ды «Дзікае паляванне» быў уставіў нейкую класавую барацьбу ды змаганне сялян за самавызначэнне. Карацей, вобраз быў поўны, усебаковы і вельмі зразумелы.

І тут выходзіць гэты дзённік.

Які падымае заслону над асабістым жыццём нашага куміра. Прычым жыццём у самыя ўдзячныя ў плане творчасці гады, час, калі быў надрукаваны «Хрыстос», рыхтавалася экранізацыя для кіно, выходзіла «Памяць». Пачынаеш чытаць — і бачыш некага ну зусім іншага.

І гэты іншы крыху нават адштурхоўвае спачатку. Бо выяўляецца, што аўтар, які напісаў «Былі ў мяне мядзведзі», проза якога прасякнутая эмпатыяй да ўсіх жывых істотаў, быў зацятым паляўнічым («О, як добра было б ісці па ржышчах з сабакам, і каб вецер свістаў у рулю стрэльбы, а вакол голыя лясы»). Гэтае непазнаванне хутка праходзіць, бо бачыш, што паляванне для яго — гэта пра адзіноту і шпацыр, а не пра страляніну па жывёлах. І калі даводзіцца прыходзіць пустым, ён не абураецца, а, наадварот, зазначае: ну і хвала Богу!

Па меры таго, як рассыпаецца твой унутраны Караткевіч, паўстае іншая, жывая асоба. І выяўляецца, што так, тусоўкі былі, былі і п'янкі, але амаль увесь час на Далёкім Усходзе ён быў адзін. Бо пасварыўся са сваімі сябрамі, прычым з такой неістотнай нагоды, што, падаецца, ён не адзінокім быў праз тую сварку, а сваркі шукаў менавіта каб застацца ў самоце («Сёння зноў пасварыліся... Палову дня не размаўляем»).

Паглядзіце на канчаткі дзеясловаў. Тут у большасці выпадкаў першая асоба, мужчынскі род. Ніякіх «мы з сябрамі». Некалькі разоў прыгаданы Адам Мальдзіс. І усё... Астатнія «закадыкі», «блізкія сябрукі», «зводныя браты», «найлепшыя знаўцы» Уладзіміра Сямёнавіча неяк не праглядаюцца ў гэтым тэксце. Тут мільгаюць цікавыя, вельмі цікавыя постаці, такія як Зянон Пазняк, але мільгаюць і знікаюць.

Караткевіч адзін. Ён піша. Ён ездзіць у Рагачоў. Ён глядзіць шмат фільмаў. Ён п'е і «глуміцца», ён танцуе і слухае спевы. Але пасля гэтага ён сыходзіць спаць у машыну, каб не працягваць кампанействаваць з усімі. Ён застаецца адзін. І працуе. Так тлумачыцца адна з найвялікшых супярэчнасцяў у гэтай асобе, бо вобраз гэткага Вялікага Гэтсбі, тусоўшчыка ды піякі, неяк не зусім стасаваўся з постаццю ўдумлівага ды глыбокага аўтара вялікай прозы. Проза вымагае адзіноты і самазаглыблення, паверце.

Да таго ж аказваецца, што ўсё «савецкае», уся гэтая «барацьба сялян за самавызначэнне», у ягоных тэкстах паўстала праз дзейнасць цэнзараў, якая сустракала вялікі ўнутраны супраціў Караткевіча. Чалавеку выпала стварыць самыя свае светлыя творы ў самыя цёмныя часы існавання БССР, калі была цэнзура, але ўжо было не прынята на яе наракаць.

Першы, другі, трэці (!) варыянт «Хрыста». Мара пра тое, што калі-небудзь «пад канец жыцця ўсё ж пакіну свой варыянт». Надзвычай трапнае вызначэнне таго, як працаваў і працуе ў нас прынцып «вы ж самі панімаеця»: «...папсавалі нажніцы ў прадчуванні іншых нажніц».

І бліскучае апісанне будавання кар'еры па-беларуску: каб быць прынятым сістэмай, варта «адваёўваць сабе пазіцыі» па кроку, віхляць і ісці на кампрамісы, і, калі на гэта згаджаешся, хутка ад цябе нічога не застаецца («Заваёўваць пазіцыі можна толькі спосабам, які выклікае ўва мне гідлівасць. Таму і валяцца на мяне ўсе шышкі, аж да вялізнага майго доўгу, з якога ледзь пачаў выпаўзаць»). Вось, дарэчы, вам і «суперпаспяховы Караткевіч»: па ўсім тэксце згадкі пра грошы. І пра тое, як іх не стае. Гэта, канечне, не «Маскоўскі дзённік» Вальтэра Беньяміна, не берлінскі дзённік Віктара Шклоўскага, але бачна: грошы даводзілася лічыць. Як даводзілася і пісаць увесь час артыкулы для газет (цікава, калі яго пры гэтым перасталі называць «журналістам»?!): «Божа мой, колькі дарэмна марнуецца часу, які ніхто ўжо табе не верне!»

Мы бачым Караткевіча ў той момант, калі ён у першы раз глядзіць на арыгіналы Чурлёніса (Уладзімір Сямёнавіч таксама асабліва адзначае «Райгардас»). Мы бачым, як ён бачыць Язэпа Драздовіча. Мы бачым яго ў Вільні і чытаем пра яе тое, што сказаў бы любы беларускі вілянчук.





Мы робімся сведкамі дакументальна зафіксаванага цуду нараджэння новага твора, пазнаем тую мазаіку асабістых назіранняў, з якіх выйшла «Чазенія». Чытаем у дзённіку: «І якое было потым шаленства агню. Зоры, патокі, у якія яны часам рассыпаюцца; ракеты, што падаюць у ваду і гараць пад ёй, як водбліск фараў «Наўцілуса». Чытаем у «Чазеніі»: «Глянце, «Навуцілусы», — сказала яна. «Дзе?» І тут ён заўважыў сам. Некаторыя ракеты не паспявалі згаснуць у паветры. Яны падалі ў ваду, і танулі, і гарэлі пад вадой зялёна і аранжава, і ўсё цьмяней і цьмяней па меры таго, як глыбей і глыбей апускаліся ў бяздонне».

І наконт «кола прыхільніц». Я не ведаю, наколькі шчырым ён быў са сваім адзіным трывалым суразмоўцам у гэтыя часы, лістом чыстай паперы. Але калі дапусціць, што ён не хаваў нічога, гэта дзённік беспрагляднага адзінокага мужчыны: «Няма жонкі, адчуваю патрэбу ажаніцца як мага хутчэй — а жанчыны такой, здаецца, няма».

На прычыну натыкаешся літаральна на трэцяй старонцы: «Ноч. На вінаград, які цягнецца ў неба, кладзецца адбітак з вакна. І калоцица ў шкло вялізная шэрая мятлушка, чыясьці душа. Хто б гэта прыляцеў па мяне і да мяне? Можа, хххххх (*закрэслена*)? Лухта! Нягледзячы на яе мінулы ліст, такі самы няшчыры, як і ўсе яны, як яна сама, я не хачу ведаць яе, помніць яе, наведваць яе. Усё мінула. Нічога ад яе не хачу».

І тут не трэба быць вялікім знаўцам, каб дакладна зразумець, чыё прозвішча стаіць за крыжыкамі. Зразумець і скалануцца, бо з моманту, як яны рассталіся, прайшлі гады. Чаму мы прывязваемся да тых, хто гэтага не варты? Чаму няшчырыя так шчыра нас турбуюць?

І гэты ягоны страшны сон, які стаўся другім, метафізічным, штуршком да «Чазеніі»! Настаў Апакаліпсіс, Караткевіч бяжыць з Янкам Брылём ад страшнага воблака, якое паўстае на гарызонце, бяжыць, каб выратаваць «яе» (і зноўку зразумела, хто гэтая «яна»). І не паспявае — воблака накрывае постаць. І ён дабягае, ён побач. Ён абдымае і не можа пазнаць сваю каханую. І аказваецца, што Апакаліпсіс — гэта і ёсць сітуацыя, калі ў любых людзей змяняюцца да непазнавальнасці твары...

Адзін чалавек сказаў, што ўсе падарожныя, па сутнасці, ёсць адной нацыяй. Нешта сугучнае магу сказаць пра пагодкаў: калі чытаеш тое, што пісалася чалавекам прыкладна тваіх гадоў, адчуваеш сябе яго братам. Хай сабе і не маеш для таго падставаў.

Караткевічу ў час складання дзённіка было 36 гадоў...

**Паводле budzma.by.**

# У Маладзечне падчас родаў памерла маладая мама

Гэта выключна рэдкі ў наш час выпадак. Што ж здарылася?

Сёлета ў 23-гадовай жанчыны прайшло вяселле. Дзіця чакалі ў канцы кастрычніка. Падрыхтоўка да родаў ішла планава. У апошні момант вырашылі рабіць кесарава сячэнне.

«Дзяўчына не мела ўвогуле ніякіх праблем са здароўем, не ўжывала алкаголь, не курыла. І спачатку кесарава рабіць не



планавалі — ёй проста сказалі рыхтавацца да родаў. Гэта было а 6-й раніцы 27 кастрычніка. А ў 8 гадзін яна ўжо была нежывая. Родным паведамілі пра смерць у 10», — расказаў «Нашай Ніве» маладзечанец Эдуард Баланчук, сябар сям'і, у якой здарылася трагедыя.

Афіцыйнай прычынай смерці называецца вострая лёгачна-сардэчная недастатковасць і анафілактычны шок. Гэты дыягназ стаіць у пасведчанні аб смерці.

«Хутчэй за ўсё, увялі лекі, ад якіх рэзка спынілася сэрца. У абсалютна здаровага чалавека можа быць такая нечаканая рэакцыя на прэпараты. Гэта адбываецца ў вельмі і вельмі рэдкіх выпадках, — кажа Баланчук. — Прыязджала брыгада з Мінска, забралі ўсе аналізы. Будуць разбірацца. Хто там якія дзеянні выконваў? Ці скарысталіся антыалергеннай аптэчкай, якая павінна быць для такіх выпадкаў?»

У радзільні маўчаць, ніхто на гэтую тэму не размаўляе. І гэта зразумела ў такой сітуацыі.

«На сёння ні я, ні хто іншы не можа сказаць, хто вінаваты. Па той інфармацыі, якая ёсць, можна сказаць, што дактары дзейнічалі ў адпаведнасці з пратаколам», — сказала «Нашай Ніве» Наталля Свірыда, намесніца галоўнага доктара па дзяцінстве і родадапамозе Маладзечанскай бальніцы.

Выпадкі смерці маці пры родах у Беларусі ў апошнія гады крайне рэдкія.

Дзіця выжыла. Гэта хлопчык.

**Уладзіслаў Швядовіч**

## Сцісла

**Спаліў сябе**

Мінчук здзейсніў самаспаленне ў двары па вуліцы Лынькова. Асоба загінулага высвятляецца.

**Гандляр гашышам**

28-гадовага хлопца ў Мінску затрымалі за гандаль гашышам. Раней хлопец нярэдка затрымліваўся за дробнае хуліганства. Зараз яму пагражае 8 гадоў.

**Смерць на пажары**

Тры чалавекі загінулі і адзін пацярпеў падчас пажару ў Мінскім раёне, у пасёлку Ждановічы.

**Збіў да смерці пасля сумеснай п'янкі**

Цела 21-гадовага хлопца знайшлі каля пасёлка Дамачава, што ў Брэсцкім раёне. Неўзабаве затрымалі падазраванага — 30-гадовага беспрацоўнага. Паводле папярэдняй версіі, пасля распіцця спіртнога паміж падазраваным і ахвярай узнікла сварка, і старэйшы мужчына збіў хлопца да смерці.

**Тры гады за дзесяць катлет**

У Горадні бомж залез у чужую кватэру і з'еў дзесяць катлет. Яго затрымалі і завялі крымінальную справу за крадзеж, ён можа атрымаць да трох гадоў турмы.

**Справа ў «Цмоках»**

Былы гендырэктар клуба «Цмокі-Мінск» абвінавачваецца ў крадзяжы больш як 7 млрд рублёў. Ён змешчаны пад варту, на яго маёмасць на суму прыкладна 2 млрд рублёў накладзены арышт.

**Небяспека аміяку**

На «Гродна Азоце» адбылася ўцечка аміяку ў працоўны цэх. Слесар, што зачыняў засаўкі падачы аміяку, атрымаў хімічны апёк твару, дыхальных шляхоў. Мужчына шпіталізаваны ў рэанімацыйнае аддзяленне, ён у стабільна цяжкім стане.

**У шахце «Беларуськалія» загінуў рабочы**

На глыбіні 420 метраў выконваліся работы па ўмацаванні горнай выпрацоўкі. Раптоўна адбылася ўзмоцненая выхад газу. Канцэнтрацыя пароў метану ў паветры склада больш за 10% (дапушчальная норма канцэнтрацыі — 1%). У выніку гэтага і загінуў мужчына, які працаваў крапільшчыкам, паведамляе прэс-служба МНС. Вядзецца следства, высвятляюць, ці ёсць вінаватыя.

**УШ**

# Забойства ці выпадковасць? Вынесены прысуд кіроўцу раёнкі «Наша Талачыншчына»

Спроба браканьерства скончылася гібеллю інспектара.




Дзмітры Голубеў так і не прызнаў сваю віну.

Трагедыя здарылася раніцай 11 красавіка. 55-гадовы Дзмітры Голубеў, кіроўца рэдакцыі раённай газеты «Наша Талачыншчына», быў у паляўнічых угоддзях каля вёскі Петрашы. Дазволу на паляванне і паляўнічай пуцёўкі ў яго не было. Але ж была незарэгістраваная стрэльба 16 калібра і патроны да яе.

Голубева заўважыў Генадзь Раўкоў, 44-гадовы старэйшы дзяржінспектар аховы прыроднага і расліннага свету. Раўкоў папрасіў паляўнічага спыніцца і паказаць дакументы. Голубеў, замест гэтага, даў драпака. Раўкоў пабег за ім.

Падчас спробы затрымаць парушальніка прагучаў стрэл. Раўкоў упаў на зямлю, а Голубеў кінуў па дарозе патроны і стрэльбу і накіраваўся дадому.

Але інспектар быў не адзін, а разам з двума егерамі. Па словах аднаго з іх, пра браканьера яны ўжо ведалі, і ведалі, што ён выйдзе са стрэльбай. Раўкоў сам прапанаваў раздзяліцца: адзін з егераў застаўся ў машыне, другі — пайшоў трохі далей, каб перарэзаць шлях Голубеву. Сам Раўкоў накіраваўся непасрэдна да браканьера.

Пасля стрэлу егер пабег да інспектара. Адразу патэлефанаваў намесніку начальніка Аршанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Алегу Бахціну, паведаміў, што Раўкова падстрэлілі, але ён яшчэ жывы. Бахцін выклікаў хуткую і міліцыю і сам паехаў на месца здарэння. Калі ён прыехаў, Раўкоў ужо памёр.

Голубева неўзабаве затрымалі.

Па словах Дзмітрыя Голубева, 10 красавіка пасля працы ён прыехаў у вёску Петрашы, каб падрыхтаваць дом да прыезду айчыма. Павячэраў, выпіў, напілаваў дроваў, лёг у ложак, але не змог заснуць. Тады ён, з ягоных слоў, узгадаў, што за печкай ляжыць стрэльба, якую ягонай маці пакінуў дзядзька, а тая перад смерцю, каля 7 гадоў таму, распавяла аб зброі сыну. Знайшліся і прыдатныя патроны.

Голубеў сцвярджае, што раніцай 11 красавіка ён узяў саморобную мішэнь і пайшоў да закінутага дома правераць стрэльбу. Маўляў, на ствале было некалькі зварачных акалінаў, таму ён хацеў спачатку праверыць, ці можна яе выкарыстоўваць і ці варта рэгістраваць.

Там ён заўважыў двух чалавек у гушчары і спужаўся. Маўляў, раней у яго быў канфлікт з п'янымі незнаёмцамі, якія прыязджалі на джыпе, хадзілі з металашукальнікам у кар'еры недалёка ад вёскі. Голубеў у судзе сцвярджаў, што падумаў, тыя мужчыны вярнуліся, каб «адпомсціць дзеду». Таму і пабег.

«Той чалавек дагнаў мяне літаральна за 3—4 скачкі. Я павярнуўся — чалавек схапіўся левай рукой за ствол стрэльбы, ударыў мяне нагой пад калена, потым — правай рукой у раён пляча. Я пачаў падаць, ухапіўся за стрэльбу рукой. Куды была накіраваная руля, я не ведаю — там жа справа секунд. Потым адчуў рывок, і мая рука саслізнула па стрэльбе. Адбыўся стрэл. Я не ведаю, як і чаму, можа, зачапіў рукавом або рукой спускавы кручок», — даказваў Голубеў на судзе.

Праўда, паказанні Голубева блытаныя. Адразу пасля затрымання ён казаў міліцыянтам, што пілаваў дровы і нічога не ведае. На судзе — што дома хацеў выклікаць хуткую, але была дрэнная сувязь. Таксама на судзе ён заявіў, што міліцыянты хацелі, каб ён узяў на сябе нейкі пажар і крадзеж, нібыта білі галавой аб сцяну.

Пры гэтым у СІЗА ён напісаў яўку з павіннай, прычым пад дыктоўку сукамерніка. Голубеў кажа, спадзяваўся, што той сукамернік «лепш разумее, дапаможа», бо мае тры судзімасці.

Гучыць дзіўна, бо сам Дзмітрый Голубеў 8 гадоў працаваў у міліцыі. Тым больш што між словамі ў яўцы і адказамі ў судзе ёсць разыходжанні. Але сам Голубеў тлумачыць іх дапамогай сукамерніка і тым, што сам ён быў у шоку.

Таксама Голубеў напісаў хадайніцтва на імя следчага, што Раўкоў «парушыў форму адзення і сваю службовую інструкцыю, службовыя абавязкі». Гэта значыць, дзяржінспектар замест красовак павінен быў насіць боты, а таксама не павінен быў вырываць з рук абвінавачанага стрэльбу. Голубеў хацеў, каб суд прызнаў, што Раўкоў загінуў пры неасцярожным абыходжанні з паляўнічай стрэльбай.

Сведкам абароны выступіў пенсіянер Анатоль Юранаў. Ён сам папрасіўся выступіць у судзе, бо, з яго слоў, загінулы дзяржінспектар сфабрыкаваў супраць яго і яго сябра крымінальную справу ў жніўні 2010 года. Судовыя цяжбы па той справе доўжыліся 9 месяцаў, рашэнне Талачынскага суда абскардзілі ў абласным судзе, дзе пенсіянераў апраўдалі. Але ж прыкласці да справы Голубева матэрыялы па справе Юранава суд адмовіўся.

Суд цягнуўся два месяцы. Дзмітры Голубеў не прызнаў сваёй віны. Каля гадзіны выступаў ён з апошнім словам, настойваў, што Раўкоў вінаваты сам. Аднак суд вырашыў, што вінаваты ўсё ж Голубеў.

Прысуд — пажыццёвае зняволенне за забойства асобы ў сувязі з ажыццяўленнем ім службовай дзейнасці або выкананнем грамадскага абавязку і незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў.

Адзначым, што Голубеў быў афіцыйна зарэгістраваны як паляўнічы, меў дазвол на нашэнне і захоўванне зброі, зарэгістраваную стрэльбу. Падчас выпадку з Раўковым ён быў без здабычы. Калі б Голубева затрымалі, ён атрымаў бы штраф у 3,6 мільёна рублёў за незарэгістраваную стрэльбу. І ўсё.

У інспектара Раўкова засталася жонка, дзве дачкі — 22 і 7 гадоў — і старая маці. Нядаўна ў інспектара нарадзілася ўнучка, якая ніколі не пабачыць дзеда.

**УШ; інф. Tut.by**

# Паляцелі замест сястры

У самалёце расійскай авіякампаніі, які 31 кастрычніка разбіўся ў Егіпце з 217 турыстамі, загінула сямейная пара беларусаў, якія мелі расійскае грамадзянства. 59-гадовы Аляксандр Радлевіч і 56-гадовая Ала Радлевіч (Лазарава) паходзілі з вёскі Гулевічы, гэта Калінкавіцкі раён.

Сям'я жыла ва Усевалажску (прыгарад Санкт-Пецярбурга). Жонка працавала ў раённай адміністрацыі, а муж займаўся бізнэсам. Цікава, што хоць па дакументах і звsituated Аляксандрам, сваякі і сябры клікалі яго Леанідам.

Ляцець у Егіпет замест Радлевічаў мелася сястра Алы, аднак тая перадумала і засталася дома, каб дагледзець дачку на канікулах.

«Смуткуем і памятаем! Алачка, дарагая наша сяброўка! Але чаму так не верыцца, што цябе няма? Валадарства нябеснае, няхай зямля будзе пухам! Спачуванні родным і блізкім!» — пішуць сяброўкі Алы на старонцы ў «Аднакласніках».





## Загінуў у сваім першым падарожжы

Рэйсам Шарм-эль-Шэйх — Санкт-Пецярбург, які разбіўся ў небе над Егіптам, ляцеў і наш суайчыннік, 28-гадовы Раман Серадзінскі.

У спісах пасажыраў ён пазначаны ў беларускай пашпартнай транскрыпцыі Raman Seradzinski.

Хлопец нарадзіўся ў Клічаве (Магілёўская вобласць), дзе і скончыў школу. Пасля Раман вучыўся ў Магілёўскім сельскагаспадарчым тэхнікуме.

У сярэдзіне 2000-х Раман з'ехаў у Санкт-Пецярбург, дзе пераходзіў з працы на працу. На ягонай старонцы ва Укантакце пазначана, што цяпер ён быў уладкаваны ў кампаніі «Аліянс». Менавіта ад працы Раман і атрымаў у якасці ўзнагароды паездку ў Егіпет.

Апошні раз хлопец заходзіў на сваю старонку Укантакце ўвечары 30 кастрычніка, за ноч да вылету.

Тыдзень таму ён выставіў новы аватар — здымак з егіпецкага курорта.

Кампенсацыя сем'ям загінулых складзе каля 2 мільёнаў расійскіх рублёў (гэта каля $32 тысяч у эквіваленце).

Сваякі плануюць пахаваць яго на радзіме.

**ЯМ**

## Топ-журналістка расійскага «Першага канала» аформіла сабе грамадзянства Чарнагорыі

«Гэта проста цудоўна. Калі-небудзь, калі ўсё таемнае стане відавочным, мы даведаемся, што ўсе яны былі грамадзянамі іншых краін», — піша ў сваім блогу апазіцыйны расейскі палітык Аляксей Навальны.

Нядаўна Чарнагорыя раскрыла дадзеныя аб асобах, якім прысвоена ганаровае грамадзянства краіны. Высветлілася, што вядучая навін «Першага канала» Кацярына Андрэева аформіла сабе грамадзянства Чарнагорыі яшчэ ў 2011 годзе. Яна выйшла замуж за вядомага чарнагорскага бізнэсмена Душана Перавіча.

«Вядома, як і ўся наменклатура пуцінскага рэжыму, яна імкнецца да ідэалу: а) тут зарабляць грошы і б) мець магчымасць у любы момант сесці на самалёт і з'ехаць па другім пашпарце «з гэтай краіны» на новую радзіму», — іранізуе Навальны.

«У любым выпадку, навіны на «Першым» цяпер будзе глядзець весялей. Фразы тыпу «хлусня і прапаганда гейрапейцаў» набываюць новы сэнс», — разважае палітык.

Чарнагорыя — краіна на Балканах, якая ўзяла курс на еўраінтэграцыю. Яна перайшла на еўра ў якасці валюты і мае далучыцца да НАТА.



## Брытанскі мастак прыехаў маляваць аўтэнтычнае беларускае графіці

У Беларусь прыехаў папулярны брытанска-аўстралійскі вулічны мастак Гвіда ван Хелтэн. Графіціст удзельнічае ў *Urban Myths* — Міжнародным фестывалі манументальнага мастацкага роспісу (муралізм).

Перад Мінскам Гвіда стварыў графіці ў Кіеве. Яны гіганцкія. Гэта стомленыя дзяўчаты ў вышыванках на сценах шматпавярховых панэлек **(гл. фота)**.

Гвіда пераважна цікавяць нацыянальныя вобразы і стылі розных краін. Перад тым, як маляваць, ён вывучае нацыянальную свядомасць і ідэнтыфікацыю народа.

У Беларусі мастак паспеў пабываць у этнаграфічных музеях і гістарычных мясцінах. «Я планую намаляваць нешта беларускае, але не скажу што», — інтрыгуе ён. Графіці плануецца змясціць на будынку па мінскай вуліцы Рабкораўскай.

**Мікіта Недаверкаў**



**На сэрцы**

## Цётка Воля

Піша Андрусь Горват.



Цётка Воля ляжыць у анкалагічнай клініцы. У яе цэлы букет захворванняў — ад хваробы крыві да пухліны на плячы. Па 85 таблетак штодзень.

Мінае другая гадзіна нашай тэлефоннай размовы. А яна ўвесь час паўтарае: «Я бы на курорце».

Мы трошкі размаўляем пра хваробу, амаль увесь час — пра агароды, якія пасадзім налета.

Высвятляем, што ў каго лепей расце, і вырашаем у наступным годзе зладзіць інтэрактыўнае агародніцтва: я вырошчваю тое, што любіць расці на маім пяску, яна — тое, што ўпадабала яе балоцістую лагчыну. А потым усё падзелім.

Калі я яшчэ набіваў гузак на ілбе, ходзячы пад стол, я ўжо тады любіў цётку Волю. Усё навокал было аднолькавым савецкім. А цётка вытыкала дываны, вышывала шторы ў сваю сталінку з высокай столлю. Любіла чытаць казкі і лячыла шэптам.

Потым кінулася ў рэлігію. Шаптаць кінула. Вытыкаць кінула. Вышываць кінула. Замест казак пачала чытаць Біблію. І я згубіў да цёткі цікаўнасць. Да таго ж быў у тым узросце, калі займеў цікаўнасць да дзяўчат.

Але нашыя жыцці перасякліся зноў, калі я падаўся ў Прудок. Кватэра цётчына стала для мяне заезным дваром паміж маёй хатай і цывілізаваным светам. Цётка ізноў пачала вышываць. Па вечарох я сядзеў на падлозе побач з ейным ложкам, назіраў за яе спрытнымі пальцамі і слухаў аповеды пра бабу Ганну ў Германіі, пра дзеда Івана, пра калінкавіцкіх цыганоў і пра тое, як пазнаёміліся мае бацькі. Усе нашыя размовы я потайкі запісваў на дыктафон. Маю ахвоту некалі кіламетры запісаных гадзінаў перавярнуць у тэксты.

Я люблю цётчыну мову. Гэта цудам захаваная мова беларускіх палешукоў: «Прыйдзеца прытыкаць лоб», «Гада кінь — і той спячэцца», «Шараваць дываны», «Тут ходзяць вампірскія вочы», «Нянаскія хлопцы». У цёткі «навек» замест «заўсёды» і «назаўжды»: «Я навек-навек запомніла», «Дзед Арцём навек чысты быў»... Не ўсё паспяваў запісваць за ёй. Шмат чаго згубіў.

Калі напачатку лета цётка Воля ноччу ў ложку зламала ключыцу, я стаў дапамагаць ёй з агародам. Мы пешкі хадзілі па восем кіламетраў да яе градак. Спачатку горадам — дварамі (яна паказала дом, дзе я нарадзіўся), гаражамі. Потым пераходзілі чыгунку і блукалі ляснымі сцежкамі. Цётка заўсёды ішла спераду, бо ўмела ўгледзець гада на зямлі. Я за лета пабачыў столькі гадзючак, колькі не бачыў за ўсё сваё жыццё, што было і што будзе наперадзе. Тады цётка расказала, што забіць гада можна, толькі калі праткнуць яго наскрозь галінкай і ўторкнуць у зямлю, каб іншыя гады не ажывілі мерцвяка.

Там, на лясных сцежках, я ўразумеў, што цётка Воля — дачка Якуба Коласа і Яна Баршчэўскага. Яе любоў да наваколля такая ж лірычная, як у Коласа. А свет такі ж таямнічы і жывы, як у Баршчэўскага.

Яшчэ што яна знічка. Як тая колішняя Беларусь, якая саступае месца новай Беларусі — з вышымайкамі і падабайкамі. Калі знічка-цётка ўпадзе ў вядро ля студні, яна паспее перавярнуцца ў ваўчыцу і збегчы ў лес ці згасне ў калодзежнай вадзе і стане пажоўклым лісточкам з ігрушы, які трапіць у палескую зямлю і змяшаецца ў ёй з іншым перагноем?

Я баяўся згубіць цётку. А з ёй — колішнюю Беларусь. Але пасля ўчорашняй тэлефоннай размовы зразумеў, што і Беларусь, і цётка будуць жыць надалей.

Мінае другая гадзіна нашай гутаркі. Цётка расказвае:

– Я ніколі не здаюся, сынок, — кажа мне. — Я вельмі жывучая. Я навек такой жывучай была. Як бы цяжка ні было, я раблю ўсё, каб жыць.

Усе падаконнікі ў бальнічнай палаце цёткі Волі занятыя. На іх раскладзена насенне. Лякарня смяецца з яе: прыехала фермерка.

– Я адусюль, што патраплю, збіраю насенне. Пасадзім з табою разам.

Пасадзім, цётка. Абавязкова пасадзім. Яно вырасце, і я раскідаю далёка-далёка па свеце.

*Прудок, Калінкавіцкі раён*

# Сяргей Шайгу жыве ў доме ў азіяцкім стылі за $18 мільёнаў





Расійскі фонд па барацьбе з карупцыяй апублікаваў расследаванне, прысвечанае маёнтку міністра абароны Расіі Сяргея Шайгу.

Як выявілася, дом у азіяцкім стылі ў падмаскоўнай вёсцы Барвіха аформлены на сястру жонкі міністра, малавядомую Алену Анціпіну. Аднак раней зямля была зарэгістраваная на дачку Сяргея Шайгу.

Цікава, што Ксенія Шайгу стала ўласніцай зямлі коштам $9 мільёнаў, як толькі ёй споўнілася 18 гадоў і знікла неабходнасць указваць яе ў бацькавай дэкларацыі.

Будаўніцтва такога дома каштуе не менш за зямлю пад ім — разам атрымаецца як мінімум $18 мільёнаў.

**ЯМ**

## Спявачка з Гомеля сцвярджае, што мінскі прадзюсар абяцаў ёй раскрутку за інтым

**Наташа Багданава — маладая спявачка з Гомеля.**





Акрамя сваёй творчай дзейнасці, Наташа здымае відэаблог. У асноўным кантэнт мае забаўляльны характар. Нядаўна яна выклала на YouTube ролік, у якім сцвярджае, што мінскі прадзюсар Аляксей Акімаў спрабаваў развесці дзяўчыну на сэкс, узамен прапануючы славу і прасоўванне ў шоу-бізнэсе.

Аляксей Акімаў — асоба неадназначная. У 2013 годзе яго судзілі за змяшчэнне сваёй рэкламы на грашовых купюрах. На судзе ён адмаўляў сваю віну, казаў, што гэта зрабіў іншы чалавек. У выніку атрымаў невялікі штраф. На СТБ аднойчы была цэлая перадача пра тое, як ён жыве з дзвюма жонкамі. Бэлтэлерадыёкампанія тады звінавацiла Акімава ў крадзяжы іх аўтарскіх правоў на «Калыханку». Пасля Акімаў ладзіў ліпавыя кастынгі на расійскі серыял «Універ».

«Ён увесь час спрабаваў даказаць, які ён класны прадзюсар. Пасля напісаў, што можа зрабіць мне кар'еру. Сказаў, што ён займаецца каналам *Europa Plus* у Беларусі, што ён уладальнік тэлеканала ЖЭСТ і шмат іншага. Пасля сказаў, што мне патрэбны добры прадзюсар і ў яго ёсць адзін на прыкмеце. Але да яго прыйдзецца запісацца ў каханкі. Я сказала, што разбяруся неяк сама і што звыкла дасягаць поспеху іншым шляхам», — расказала Наталля Багданава.

**Мікіта Недаверкаў**

## Лаўрэатам прэміі Сахарава за 2015 год стаў вязень сумлення з Саудаўскай Аравіі



Прэмія імя Андрэя Сахарава «За свабоду думкі» 2015 прысуджана 31-гадоваму блогеру з Саудаўскай Аравіі Раіфу Бадаві, які знаходзіцца ў турме па абвінавачванні ў абразе ісламу. Пра гэта абвясціў у Страсбургу 29 кастрычніка Еўрапейскі парламент.

У 2012 годзе Бадаві быў арыштаваны і прысуджаны да 10 гадоў турмы, грашовага штрафу, а таксама 1000 удараў бізуном. Першыя 50 удараў ён перанёс у студзені. Пасля жорсткай крытыкі з боку міжнароднай супольнасці працяг цялеснага пакарання быў адкладзены, паводле афіцыйнай версіі — з-за стану здароўя зняволенага. Але выкананне гэтай часткі прысуду ў далейшым не выключана. Няясна таксама, ці будзе перагледжаны прысуд.

Акрамя Бадаві, у шорт-ліст прэміі імя Сахарава—2015 былі ўключаныя расійскі апазіцыйны палітык Барыс Нямцоў, забіты ў Маскве 27 лютага, а таксама дэмакратычная апазіцыя Венесуэлы, прадстаўленая аб'яднаннем «Круглы стол дэмакратычнага адзінства», і шэраг палітвязняў.

Сярод беларусаў прэмію Сахарава атрымлівалі Беларуская асацыяцыя журналістаў і Аляксандр Мілінкевіч.

**ЛМ**







## «Белавія»: Васільковая канцэпцыя пакуль не зацверджана

Менш чым праз год у Беларусь будзе даστаўлены першы *Boeing* «Белавія» прынцыпова новага дызайну. Авіятары натхніліся ідэяй выпускніка БДУ Іллі Андрэева, але не сталі ўвасабляць яе цалкам, піша *Onliner.by*, які пацікавіўся ў работнікаў кампаніі падрабязнасцямі анансаванага рэбрэндынгу.

— Пытанне прапрацоўваецца. У нас ужо фактычна гатовая ліўрэя новага самалёта, — кажа начальнік аддзела рэкламы і камунікацый «Белавія» Вольга Герасенка. — Пакуль мы не паглыбляемся ў дэталі і не расказваем, якія сімвалы і колеры будуць выкарыстаныя. Бо хочам прадставіць навінку непасрэдна ў Мінску, калі з заводавытворцы прыляціць *Boeing* кампаніі. Яго размалёўка будзе рабіцца непасрэдна ў Сіэтле.

Вядома, што раней прапанаваная дызайнерам Іллёй Андрэевым «васільковая» канцэпцыя не была зацверджана цалкам.

— Так, Андрэеў прапанаваў сваю ідэю і, так скажам, натхніў кампанію на рэбрэндынг. Мы да гэтага часу кантактуем. Ілля дае парады наконт вясновага выгляду і кветак, якія варта выкарыстоўваць. Андрэеў не кіраўнік гэтага праекта, ён натхняльнік і кансультант. Проста Ілля — фанат авіяцыі. І аказвае дапамогу кампаніі на абсалютна бясплатнай аснове.

Што тычыцца лагатыпа, ніякага васілька пакуль не плануецца. Хоць пэўны нацыянальны матыў будзе прысутнічаць. І гэта не прадугледжвае выкарыстанне колераў сцяга.

**АГ**

**Кіно**

## Жывая легенда




Чорная імша
**Жанр:** драма, крымінал, біяграфія
**Рэжысёр:** Скот Купер
**У ролях:** Джоні Дэп, Джоэл Эдгертан, Бенядзікт Камбербэтч, Кевін Бэйкан, Джэсі Племанс, Пітэр Сарсгаард, Коры Стол, Дакота Джонсан, Роры Кокрэйл
ЗША, 122 хв.
**Адзнака:** 7

Уайці Булджар — адзін з самых жорсткіх злачынцаў у гісторыі Бостана, лідар крымінальнай арганізацыі *Winter Hill* і брат мясцовага сенатара. Пасля серыі крывавых злачынстваў ён становіцца інфарматарам ФБР. На працягу 30 гадоў Булджар працуе на бюро, якое збірае кампрамат на мафіёзныя кланы. Булджар жа выкарыстоўвае ФБР, каб пазбавіцца ад канкурэнтаў і забяспечыць прыкрыццё для сваёй уласнай дзейнасці.

Сцэнар заснаваны на кнізе Дзіка Лера і Джэрарда О'Ніла «Чорная імша: праўдзівая гісторыя пра д'ябальскі саюз ФБР і ірландскую мафію» — біяграфіі знакамітага бостанскага гангстэра, які абвінавачваўся ў рэкеце, меў дачыненне да 19 забойстваў і ў той жа час працаваў інфарматарам на ФБР. Фільм ахоплівае падзеі ад 1981 да 1995, калі Булджар знік і 16 гадоў паспяхова хаваўся ад правасуддзя. У 80-гадовым узросце, у чэрвені 2011 года, ён быў арыштаваны ў Санта-Моніцы.

Цікава, што малодшы брат Булджара — Уільям Булджар — шмат гадоў быў прэзідэнтам сената штата Масачусэтс. Ён выйшаў у адстаўку толькі пасля выяўлення ягосувязяўз Уайці, але і цяпер займае пасаду рэктара ўніверсітэта. Яго ролю ў фільме выканаў Бенядзікт Камбербэтч.

Булджар яшчэ жывы. Рыхтуючыся да сваёй ролі, Джоні Дэп некалькі разоў спрабаваў сустрэцца са сваім прататыпам — гангстарам Джэймсам Уайці Булджарам, якія адбывае пажыццёвы тэрмін, аднак той ад сустрэчы адмовіўся.

Рэжысёр Скот Купер («Шалёнае сэрца» (2009), «З пекла» (2013)) імкнуўся як мага дакладней перадаць атмасферу крымінальнага Бостана канца мінулага стагоддзя. Большасць сцэн забойстваў была знята ў тых месцах, дзе яны адбыліся насамрэч. Купер кансультаваўся з былымі паплечнікамі Булджара, якія ўжо адбылі свой тэрмін — ён быў кароткім дзякуючы іх дапамозе расследаванню.

Сюжэт мае храналагічны ход і заснаваны на аповедах сведкаў. Не ўсе падзеі паказаны праўдзіва, але некаторыя дэталі проста не ўдалося высветліць дакладна. Удзельнікі банды не ўхвалілі фільм, назваўшы яго «мастацкім творам», бо там паказаныя злачынствы, якія здзейснілі не яны.

Стужка будзе цікавая аматарам крымінальных драм, дзе падзеі падаюцца блізка да рэальнасці. Яна ўтрымлівае сцэны жорсткіх забойстваў і мае рэйтынг 18+.

**Настасся Уласава**

# Прытомнасць нацыі — пачатак маральнай рэвалюцыі

Піша **Павел Севярынец**.



**Пах палага лісця**

Восень. Аблятае лісце. Вось і забываецца чарговы тыдзень беларускай нацыянальнай ганьбы. Мільёны людзей ішлі на «выбары», якіх не было; тысячы — арганізоўвалі фальсіфікацыі; толькі сотні — пратэставалі. Усе ўсё разумелі, але ўсё было прынята і беларусамі, і светам, па вялікім рахунку, як норма.

Агульная апатыя пасля «выбараў» толькі абвастрае пытанне: як нам далей жыць з гэтым? Альбо — як нам з гэтым змагацца?

Пачну з глыбокага перакanання. Лукашэнка будзе над намі да таго часу, пакуль мы як нацыя, мы як апазіцыя, мы як асобы не будзем гатовыя ўзяць на сябе адказнасць за краіну. Сёлетняя восень паказала: не гатовыя. Як толькі будзем падрыхтаваныя — з'яднаныя, арганізаваныя, у духу, з праграмамі пераменаў аж да ўзроўню мясцовага самакіравання, — Бог нам гэтую ўладу дасць. Якім чынам — пытанне другаснае (развал Расеі, калапс эканомікі, палацавы пераварот і руйнаванне сістэмы, хвароба, Плошча, штосьці іншае, усё разам — у Бога шляхоў многа).

Праблема — у нас саміх. І ў млявым, абыякавым да жыцця грамадстве, і ў бяссілых дэмсілах, і ў нашых сэрцах.

**Паўднёвы вецер**

Пэўны час мне здавалася, што дастаткова правесці ў Беларусі масавую евангелізацыю, паставіць рубам пытанні веры — і ахопленае прагай дасканаласці грамадства стане і свядома беларускім, і маральна гатовым да рэформаў.

Але нядаўні досвед Украіны высвеціў адну вельмі істотную акалічнасць. Аказалася, што плёнам першага, бяскроўнага Майдану стаўся хіба што рывок нацыянальнага самаўсведамлення, а зусім не маральная рэвалюцыя. Штуршок украінізацыі адбыўся, рэвалюцыя сумлення — згасла.

Другі Майдан разам з крывёю Нябёснай сотні, расійскім нашэсцем і вайной пераадолеў раскол украінскай нацыі, надаў ёй цэласці — і зрабіў патрэбу маральнае рэвалюцыі аголеным, як адкрытая рана. Ідалы Леніна рухнулі. Цяпер ужо не палова — 80% жыхароў Украіны мае ўкраінскую свядомасць. І толькі цяпер украінцы з усенародным жахам зразумелі, якая прорва хлусні і карупцыі насамрэч у іх пад нагамі.

Толькі цяпер нацыя, якая ачомалася, адчула сябе саму, апрытомнела, адхаркалася крывёю вайны — зразумела: далей так жыць нельга.

Ключавым пунктам «Рэвалюцыі годнасці» стаўся той момант, калі крытычная маса насельнікаў Украіны адчула сябе ўкраінцамі.

Без нацыянальнай свядомасці маральная рэвалюцыя праваляваецца. Спачатку свядомасць, потым жыццё па-новаму. Не наадварот.

**Непрытомнасць асабістая і народная**

Патлумачу на прыкладзе асобнага чалавека.

Калі чалавек не памятае сябе (непрытомнасць, сон, афект, сумятня), ён не можа пакаяцца, прыняць рашэнне змяніцца і, адпаведна, не можа пачаць жыць «з чыстага аркуша». Ён не ўсведамляе сябе. Не можа зрабіць асэнсаваны і адказны выбар. Першае, што патрэбна зрабіць — апрытомнець. Я — гэта я. Ачомаца. Хто я? Дзе я? Вольная воля працуе толькі ва ўмовах свядомага выбару, так стварыў чалавека Бог. Каб уладкавацца на новую працу, напісаць тэстамент або выбраць збавенне, я мушу быць у ясным розуме і цвёрдай памяці.

У выпадку з народам «ачомацца» — гэта значыць адчуць сябе нацыяй. Мы — гэта мы. Беларусы, нашчадкі ліцвінаў. Пакуль большасць насельнікаў не адчуе сябе адзінай нацыяй — яна не зможа ані асэнсаваць цяжкасць уласнага стану (1-е месца ва ўжыванні алкаголю ў Еўропе, 3-е знізу па ўзроўні заробкаў, адно з першых — у самагубствах, колькасці жанчынаў у турмах, разводах, і так далей), ані пакаяцца перад Богам, ані пайсці дарогаю выратавання.

А гэта значыць, што перадумовай пераменаў у Беларусі (якіх хочаце: рашучых ці мірных, маральнай, тэхналагічнай ці цывілізацыйнай рэвалюцыі) будзе толькі нацыянальная прытомнасць.

**Ціхі нацыянальны прарыў**

Што характэрна, беларуская моладзь пасля ўкраінскіх падзеяў масава забруіла нацыянальнай свядомасцю. Моўныя курсы, шматтысячныя беларускія канцэрты ў блізкім замежжы, вышыванкі і вышымайкі, «Пагоня» і футбольныя стадыёны. Уключыўся механізм нацыянальнага самазахавання.

Крэмль і савецкі рак у структурах рэжыму будуць з усяе сілы нішчыць і раз'ядаць нацыянальную прытомнасць, ставіць на ёй кляймо «фашызму». Бо гэта для іх — прадвесце канчатковай паразы. Беларускасць Беларусі будзе апошнім цвіком у труну Расейскай імперыі. Там гісторыю добра памятаюць і чаго баяцца — ведаюць.

А нашай найпершай задачай ёсць падрыхтоўка, выспельванне і абуджэнне ў народзе нацыянальнага пачуцця. Мова. Асвета. Гісторыя. Віктарыны. Вечарыны. Вандроўкі. Кнігі. Сацсеткі. Квэсты.

Ціхі нацыянальны прарыў.

**Навошта дарога, якая не вядзе да Бога?**

І першыя, хто пакліканы выйсці на шлях нацыянальнага прарыву, — цэрквы. Калі мы, хрысціяне, хочам бачыць новую Беларусь грунтаванай на праўдзе, свабодзе, справядлівасці, моцным маральным грунце — мусім працаваць у Адраджэнні найпершымі і найлепшымі.

Пакуль толькі дальнабачны Касцёл, грэка-каталіцкая царква і асобныя (рэдкія!) праваслаўныя ды пратэстанцкія супольнасці асэнсавалі сілу свядомасці. Дай Бог, каб іншым нашым хрысціянскім грамадам давялося прайсці курсы беларусізацыі не так, як праходзяць цяпер многія ўкраінскія цэрквы курс патрыятызму ўкраінскага — праз кроў добраахвотнікаў і прызыўнікоў, слёзы матуляў ды кругласуткавыя, на каленях, малітвы за мір.

Пара працверазець. Братам праваслаўным. Братам пратэстантам. Беларуская нацыянальная свядомасць — вось ключ да ўсенародных маральных пераменаў. Адзін чалавек без Радзімы, сцяга і мовы пакаецца і да Бога прыйдзе. Цэлая Беларусь — не. Народнае пакаянне, абуджэнне, навяртанне і аздараўленне ў маштабах усёй краіны магчымае толькі ў выніку акунання ў купель нацыянальнай свядомасці.

Тым больш што яна, гэтая купель (ды і гэтая свядомасць), — сутнасна хрысціянская.

Бог даў чалавецтву розныя мовы, каб пазбегнуць вавілонскага стоўпатварэння. Бог прыйшоў у гэты свет праз адасоблены народ Ізраіля. Нарэшце, Бог даў беларусам унікальны хрысціянскі код — ад сімвалаў, бел-чырвона-белага сцяга Хрыста, «Пагоні» з крыжам Еўфрасінні, гімна «Магутны Божа» да ахвярнай, поўнай евангельскай светлыні і любові гісторыі.

Наш нацыянальны прарыў і наша нацыянальная ідэя — гэта Ісус Хрыстос, Які гаворыць па-беларуску.

## Водгукі

*«Як пашкадавалі тыя, хто спрадаў бацькоўскую хату» (Дзмітры Гурневіч, №39)*

Аўтар яшчэ на кароткай дыстанцыі знаходзіцца. Мы вось 35 гадоў таму не прадалі дзедавай хаты (цяпер нават падрамантавалі яе невядома нашто). І суседзі свае хаты не прадаюць (можа, і прадалі б, але няма каму). Ну і што — у каго тая хата стаіць, у каго абвалілася, у каго абразы вынеслі, у каго інструмент, у каго падлогу. Але самая вялікая бяда, што вёска вымірае і зарастае — ужо няма агародаў, няма каму касіць тыя абшары, і вясной падыходзіць агонь, бо нехта недзе падпальвае тое бадыллё. Наша лазня пад старой бярозай згарэла разам з бярозай, а хата ўратавалася толькі таму, што знайшліся яшчэ мясцовыя з канём і плугам — сваё баранілі.

Нашыя бацькі (дзеці гаспадара) пасля вайны імкнуліся атрымаць адукацыю — і атрымалі, і сталі гараджанамі, ад'ехалі даволі далёка. Цяпер яны састарэлі і сыходзяць з жыцця. Унукі ў мемарыяльнае падарожжа да дзядоў выбіраюцца не кожны год. Праўнукі ўжо не маюць да гэтага ўсяго дачынення. А дзяржава чакае, з бульдозерам напагатове.

У хаце трэба жыць, каб яе аглядаць. І калі свае ў хаце не жывуць, то ці горш чужыя людзі за бульдозер? Можа, не горш? Не аб хаце ж ужо вядзецца, а каб вёска не сышла ў нябыт, каб хоць магілкі засталіся.

Адматаць назад калектывізацыю, індустрыялізацыю, урбанізацыю, русіфікацыю і г.д. немагчыма. У нейкіх выпадках магчыма зайсці з другога боку. Але гэта складана — мы патыкаліся і адступіліся. Хто спрабуе — мае шчырае захапленне, пашана (і зайздрасць).

**V.**



Гэта лірыка. Жыццё — жорсткая рэч. У хаце трэба жыць. Усім гэтым трэба жыць. Нам жа на самай справе хочацца не ў хату, а ў дзяцінства, да тых людзей, якія там былі, якія цябе любілі. А іх даўно нямашака.

**Яўген**

А на месцы маёй бацькоўскай хаты стаіць Нацыянальная бібліятэка. І дзяды ляжаць каля знесенага аўтавакзала «Маскоўскі», хутка будуць ляжаць побач з газпрамаўскім хмарачосам.

**Алена**

Справа зусім не ў пары тысяч у.а. Дом трэба даглядаць! А гэта цяжка, калі ў доме не жывеш!

**Andrei**

Ва ўсім вінаваты менталітэт нашага вясковага народу, які выхаваны савецкай уладай. Зямля нічога не каштуе, чалавек не гаспадар зямлі.

У 1930-я гг. у кожнай вясковай хаце жыло па 7—8 дзяцей. То бок іх бацькі клапаціліся аб тым, каб гэты скарб — зямлю — было каму перадаць. Зямля была купленая ў пана, людзі ездзілі на заробкі ў Францыю, Амерыку, абы набыць зямлю.

Вяскоўцы імкнуцца ў горад, бо там, у кватэры, у цёплым месцы, стаіць ... унітаз. Не трэба мясіць нагамі калгасны гной у сваёй вёсцы.

Цяпер назіраецца такая з'ява, калі карэнныя гараджане імкнуцца ў вёску. Прадаюць кватэру ў Мінску. І едуць жыць, напрыклад, на Глыбоччыну, у Галубіцкую пушчу. Ведаю шмат такіх людзей. Вось, напрыклад, вёска Бабруйшчына. Там аўтахтонаў амаль няма. Але тут стаяць катэджы з металадахоўкай. Чатыры возеры і рака Шоша! Лес і пагоркі навокал. А які водар кветак і траў! І як вы ўсе правільна зразумелі — колішнія гараджане адразу паставілі ўнітаз у цёплым месцы. Ёсць і душ, і лазня. Мабільная сувязь і інтэрнэт. А вось вяскоўцы паляцелі ў горад, але тое, аб чым яны марылі — цёплы туалет і душ, — маглі мець і ў сваёй вёсцы. Проста ніхто ім не падказаў, што можна жыць інакш, ніхто не паказаў прыклад. Сёння прыклады ўжо ёсць, але няма вяскоўцаў.

**Юзік Крулеўскі**

Трэба не прадаваць, а здаваць.

**Госць**

Яшчэ цяжэй глядзець, як дом бацькоў разбураецца, бо няма магчымасці за ім прыглядаць.

**Максім**

Не разумею людзей, якія так проста гатовыя адмовіцца ад сваіх каранёў, сваёй гісторыі. Як можна прадаць дом, у якім жыве дух роду?

**Ірына**

«Родная хата — няхай небагата, родная хата — такая, як ёсць» — мая любімая песня.

**Ч Т Д**

Дзе тая «Бяседа» са сваёй «Роднай хатай»? Я дык плачу, калі чую.

**&**

Няма сэнсу чапляцца за тое, што мінула.

**Таццяна**

Хата маёй бабулі засталася занядбанай пасля яе смерці. Туды ўжо не было каму прыязджаць (Чарнобыльская зона, памерлыя родныя і блізкія і г.д.) і магло так здарыцца, што яе, як некаторыя іншыя нікому не патрэбныя хаты ў вёсцы, проста закапаюць у зямлю. Але нашу хату, на шчасце, купіў саўгас для шматдзетнай сям'і. Цяпер хата ажыла. І няхай яна ўжо не надта нагадвае дом майго дзяцінства, але сэрца мае пяе і ўсмешка з'яўляецца кожны раз, калі я назіраю там маладое жыццё і чую дзіцячыя галасы.

**Вольга**

А я ніколі не прадам дзедаву хату, бо там добра.

**Алесь Беларус**

## Думкі

**«Трэба ўсімі сродкамі быць беларусамі»**

Няўжо беларусы за столькі год незалежнасці яшчэ не наеліся каўбасы, селядцу ды іншых вядомых і невядомых прысмакаў з вялікага свету, каб жадаць ужо бясконца ізноў таго ж, не ведаючы, як ладна свайго вырасціць, вырабіць, прадаць, спажыць, штосьці ўмеем, цяжка нарадзіўшы, аднак нязроднае, касмапалітычнае.

Калі сярод чыноўнікаў ёсць людзі думкі, а не толькі выканаўцы, каб грошы драць з кішэняў нават у апошняга жабрака бяззубага (чаму той жа сумна вядомы ўказ пра дармаедства, пазычаны аднекуль са сталінскай труны, доказам), то пэўне ж павінны адчуваць, што надыдзе адэкват, бяззубыя сыдуць у неба прасіць другога хлеба, а родныя, землякі прачнуцца і прыйдуць тут, на зямлі, па тое ж, ды яшчэ маральную шкоду ўспомняць. Гэта зусім лагічна. Трэба ўсімі сродкамі быць беларусамі, тады ўсім будзе па-беларуску: ціха, мірна і спакойна, рынак — не ліпавы, канечне — усім дасць пражытак.

**Алесь Васілеўскі, Клетнае (Барысаўскі раён)**

# Андрэй Казакевіч: З часам суседзі ўлічаць беларускую версію гісторыі ВКЛ

Больш за чатыры сотні чалавек штогод збіраюцца ў Каўнасе на Кангрэс даследчыкаў Беларусі. І колькасць удзельнікаў расце. Пра «рухомую структуру» Кангрэсу, лідараў цікавасці да Беларусі і беларускую версію гісторыі ВКЛ гутарым са старшынёй арганізацыйнага камітэта форуму, доктарам палітычных навук (PhD) Андрэем Казакевічам.



Андрэй Казакевіч падчас Кангрэсу.

**— Спадар Андрэй, чым адметны быў V Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі?**

—Калі мы кажам пра секцыю міжнародных адносін, то сёлета больш увагі надавалася пытанням рэгіянальнай бяспекі, гібрыдным войнам, супрацоўніцтву Беларусі з Еўразвязам, праблемам міграцыі... Калі казаць пра палітычныя інстытуты, то працуе моцная панэль па масавых акцыях у рэгіёне, па грамадзянскай супольнасці. Добра выглядае секцыя па Вялікім Княстве Літоўскім, увогуле, увесь гістарычны блок пра XIX і XX стагоддзі. Сёлета была створана секцыя, прысвечаная кніжнай культуры Беларусі, працуюць секцыі філасофіі, літаратуразнаўства.

**— Ці стаў Кангрэс за яго пяцігадовую гісторыю запатрабаванай падзеяй для беларускай навуковай супольнасці?**

— Мне падаецца, што так. Асабліва сярод адмысloўцаў тых дысцыплін, дзе бракуе рэгулярнай акадэмічнай камунікацыі ўнутры Беларусі.

У 2010 годзе мы меркавалі, што ў Кангрэсе возьме ўдзел не больш за 100 чалавек. Спісы рэгістрацыі гэтага года сведчаць, што прыехала амаль 500. Павялічылася і колькасць публікацый па выніках падзеі. Яны з'яўляюцца не толькі ў зборніку працоўных матэрыялаў Кангрэсу — тэксты друкуюцца ў навуковых часопісах, манаграфіях, паўстаюць новыя даследчыя праекты, а дыскусіі, што ўздымаюцца на форуме, выходзяць у шырокае публічнае поле...

Таму ідэя Кангрэсу працуе. Ён ствapae камунікацыю паміж прадстаўнікамі розных дысцыплін і рознымі навуковымі форумамі.

**— Наколькі актыўна замежныя навукоўцы ўключаюцца ў гэты працэс камунікацыі?**

— Сёлета не менш за 120 чалавек на Кангрэсе — каля чвэрці даследчыкаў — прадстаўнікі замежных краін. Праўда, сярод удзельнікаў — і выхадцы з Беларусі, якія робяць акадэмічную кар'еру за мяжой. Але праца з імі таксама важная.

**— Які спектр краін, што ўдзельнічаюць у Кангрэсе?**

— Высокі працэнт цікавасці да Беларусі ў суседзяў. Лідарам тут з'яўляецца Польшча, на другім месцы — Украіна, і далей — Расія. У Літвы не вельмі высокі паказчык, але і сама краіна невялікая. У Кангрэсе ў апошнія гады ўдзельнічаюць прадстаўнікі 18—22 краін.

**— Вы казалі пра Польшчу, якая з'яўляецца лідарам інтарэсу да Беларусі. Якога кшталту гэта цікавасць?**

— Асобныя падзеі і нават цэлыя пласты беларускай гісторыі разглядаюцца ў польскай гістарыяграфіі як ключавыя падзеі гісторыі Польшчы: Крэўская і Люблінская уніі, падзелы Рэчы Паспалітай, культурны і літаратурны дух рамантызму пачатку XIX стагоддзя, паўстанне 1863. Заўважная частка польскіх нацыянальных герояў паходзіла з нашых земляў. Таму цікавасць палякаў зразумелая — яна адлюстроўвае існаванне моцных асяродкаў даследавання Беларусі, якія пачалі складацца яшчэ да Другой сусветнай вайны.

**— Ці ёсць у гэтым сэнсе ў Польшчы канкурэнты?**

— Не. У Расіі беларуская праблематыка — гэта глыбокая перыферыя ў цяні заходнееўрапейскіх, цюркскіх, польскіх і нават украінскіх сюжэтаў. Кола спецыялістаў, якія займаюцца Беларуссю пастаянна, на ўзроўні напісання кніг, рэгулярных артыкулаў, абмежаванае.

Яшчэ адзін адметны феномен: тыя ж польскія даследчыкі — каля дзясятка, з тых, каго ведаю, могуць размаўляць па-беларуску. У той жа час не ведаю ніводнага рускага навукоўца, які б меў такія кампетэнцыі. Як, у прынцыпе, ніводнага літоўскага ці ўкраінскага.

**— Да гэтай пары ў дачыненні спадчыны Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай паміж Польшчай, Літвой і Беларуссю вядзецца барацьба за сімвалічны капітал. Прычым Польшча і Літва ў гэтай справе значна абышлі Беларусь: Міцкевіч і Рэйтан у свядомасці беларускай большасці — польскія героі; літоўцы выдаюць даследаванні роду Радзівілаў, не азіраючыся на Нясвіж… Ці змяняе Кангрэс гэтыя расстаноўкі?**

— Для палякаў, як і для літоўскіх даследчыкаў, такой вайны няма. Бо часта яны проста не ўспрымаюць беларускую пазіцыю як сур'ёзную, навуковую. Ёсць такая перадузятасць, што канон ужо створаны — і за яго не трэба змагацца. Калі ласка, вось польская версія, літоўская, а тое, што там у Беларусі, — гэта так, павярхоўная публіцыстыка ці беспадстаўнае ламанне канону. На жаль, суседзі ўспрымаюць нас менавіта так: штосьці там такое людзі на каленках выдумляюць, бяруць наша, бо свайго няма.

**— Але былі даследаванні таго ж Міколы Ермаловіча, якія нельга спісваць з рахунку…**

— Так, але ён быў «дысідэнтам». Яго даследаванні і ідэі ўваходзяць у шырокае кола грамадскіх дыскусій толькі пры канцы 1980-х, а трапляюць у акадэмічнае поле яшчэ пазней. Акрамя таго, яго работы не заўсёды адпавядалі навуковаму і акадэмічнаму фармату, а гэта ў барацьбе за сімвалічны капітал вельмі важна. Беларуская інтэрпрэтацыя гісторыі не займела свайго важкага месца ў еўрапейскай гісторыі да гэтага часу.

Першы фактар, чаму гэта адбылося, — слабасць традыцыі. У палякаў «моцны» наратыў нацыянальнай гісторыі з'явіўся на пачатку XIX стагоддзя, у літоўцаў — на пачатку XX-га. Мы ж адкрыта пачалі гэтым займацца не больш за трыццаць год таму.

Другі фактар гэтага — адсутнасць палітычнай падтрымкі і пазіцыі беларускай дзяржавы. У сувязі з тым, што барацьба за гэты сімвалічны капітал перастала быць цікавай для беларускай дзяржавы ў другой палове 90-х, беларуская гістарыяграфія як калектыўны суб'ект проста знікла для замежных даследчыкаў. Для іх стала натуральным працягнуць сваю традыцыю без уліку беларускіх інтарэсаў, бо гэтыя інтарэсы на ўзроўні беларускай дзяржавы не былі сфармуляваныя.

На пачатку 1990-х паміж літоўскімі і беларускімі гісторыкамі яшчэ вяліся актыўныя дыскусіі. Літоўскія гісторыкі згадваюць, што былі гатовыя пайсці на кампрамісы, напрыклад, тэрміналагічныя. Але пасля 1995 года ўсё гэта страціла сэнс. Беларусь пачала рабіць стаўку на савецкую гісторыю. Вядома, былі альтэрнатыўныя даследчыкі, якія з такой пазіцыяй не пагаджаліся, але яны не маглі адказваць за ўсю айчынную гістарыяграфію.

**— Што маем цяпер?**

— Цяпер сітуацыя мяняецца. І мяркую, беларуская версія гісторыі ВКЛ, у яе памяркоўнай версіі, праз пэўны час будзе ўлічана суседзямі. Кангрэс садзейнічае гэтаму. Замежныя навукоўцы прыязджаюць і бачаць, што з'яўляюцца сур'ёзныя даследаванні, што гэта паслядоўная акадэмічная праца. Яны пачынаюць разумець, што ў Беларусі сёння ёсць з кім весці навуковы дыялог.

Дарэчы, тут ёсць і яшчэ адно поле змагання — гэта англамоўная публіка. Корпус тэкстаў пра ВКЛ на англійскай мове не такі ўжо і вялікі. Цяпер ён расце, асабліва апошнія дзесяцігоддзе, і палякі, і літоўцы актыўна інтэгруюцца ў сусветную акадэмічную супольнасць, пішучы па-англійску свае версіі гісторыі ВКЛ. Беларускія даследчыкі пакуль не праяўляюць высокай актыўнасці. А гэта таксама істотнае поле для розных інтэрпрэтацый. Нават тэрміналагічных: як перакладаць тыя ж прозвішчы людзей, як павінны гучаць геаграфічныя назвы, ці браць тут польскую, літоўскую альбо беларускую аснову — важных момантаў дастаткова.

**— На сваім досведзе магу сказаць, што толькі ўлетку мне давялося выслухаць невялікую лекцыю ад італьянскай даследчыцы Усходняй Еўропы пра тое, што Беларусь ніколі не была незалежнай, уваходзячы толькі як прыдатак у Рэч Паспалітую і нават ВКЛ… І я разумею, што яна абапіралася на тыя крыніцы, якія меліся ў яе alma mater.**

— Так, замежныя даследчыкі чытаюць тое, што ёсць — па-англійску, і тут нельга крыўдаваць. 100—150 год таму гісторыю Еўропы пісалі чатыры-пяць «вялікіх» нацый, а ўсе іншыя версіі былі маргінальныя. Але паступова ўсё большая колькасць нацыянальных гістарыяграфій пачала ўключацца ў інтэрпрэтацыю гісторыі — і з імі прыйшлося лічыцца. Для Беларусі няма анічога іншага, як проста працаваць у гэтым кірунку. Як далей будзе выглядаць разуменне гісторыі ВКЛ, залежыць выключна ад беларускіх даследчыкаў.

**— Спадар Андрэй, калі вы загаварылі пра эліту, мяне цікавіць яе навуковае вымярэнне. Хто ўдзельнікі Кангрэсу?**

— Калі браць склад сёлетняга форуму, то 15—20% — гэта людзі, якія маюць доктарскую ступень ці габілітацыю. 30—40% — тыя, хто мае пэўную ступень кандыдата навук альбо PhD. І рэшта даследчыкаў — магістры і бакалаўры. Многае залежыць тут ад дысцыпліны, бо, калі гэта, напрыклад, фатаграфія, зразумела, што акадэмічная ступень тут не такая важная. Тое самае датычыць сферы мастацтва і некаторых іншых кірункаў. Для нас больш істотным у гэтых кірунках практыка, досвед, чым ступень.

Мы таксама вітаем удзел у Кангрэсе і маладых навукоўцаў. Падобная расстаноўка сіл дазваляе трансляваць веды і кампетэнцыі ад дасведчаных навукоўцаў да тых, хто толькі пачынае сваю кар'еру.

**— Тады падсумуем: куды рухаецца цяпер думка беларуская?**

— Цяжка гаворыць за ўсю думку, але калі казаць пра палітычныя даследаванні, якія мне бліжэйшыя, менш цікавымі становяцца ідэалагічныя формулы, павярхоўная аналітыка, арыентацыя на тэарэтычныя схемы. Усё больш цэніцца праца з эмпірычным матэрыялам: статыстыка, інтэрв'ю, апытанне і г.д. Адпаведна, з'яўляецца глыбіня.

Што датычыцца зместу, усё больш увагі ў палітычных даследаваннях да Беларусі як да суб'екта. На пачатку 90-х фактычна ўсё абмяжоўвалася тым, што браліся гатовыя заходнія, расійскія ідэі і схемы, і Беларусь укладвалася ў іх надзвычай механістычна. На пачатку 2000-х Беларусь паступова пачалі даследаваць. Трэнд апошніх пяці год — ужо разуменне нашай краіны менавіта як суб'екта. І ў міжнародных адносінах, і ў пытаннях ідэнтычнасці ды ўнутранай палітыкі.

Гутарыла Дар'я Амяльковіч

Казус

# «Каштоўнасць нацыянальнага маштабу» аказалася бруском яўрэя

Пры раскопках на месцы Лаўрышаўскага манастыра ў Навагрудскім раёне знайшлі пячатку. Доктар гістарычных навук з Мінска Сяргей Рассадзін выявіў на тарцы бруска літары. Загаварылі пра сенсацыю: надпіс на пячатцы спачатку расчыталі як грэчаска-славянскую трасянку, дзе па-грэчаску напісана «святая», а па-славянску «пустынь». Праўда, грэчаскае слова чамусьці скарочанае, а кірылічныя літары незвычайныя па форме. Прафесар Рассадзін паспяшаўся назваць пячатку каштоўнасцю нацыянальнага маштабу.

Аднак пасля публікацыі яе вывы ў інтэрнэце эпіграфікі — гэта значыць, гісторыкі-спецыялісты па надпісах на камені — адзінадушна заявілі, што надпіс на тарцы каменнага бруска напісаны... габрэйскім квадратным шрыфтам. Ён гучыць як «Іцхак Айзі[к] (קידייא קחצי)».

Імаверна, брусок згубіў нейкі жыд-рамеснік.

Заснавальнікамі Лаўрышаўскага манастыра ў XIII стагоддзі лічацца вялікі князь Літоўскі Войшалк і святы ігумен Елісей Лаўрышаўскі. У XIII—XIV стагоддзях манастыр быў летапісным цэнтрам ВКЛ, для яго было створане рукапіснае Лаўрышаўскае Евангелле.

Прафесар Рассадзін раней праславіўся тым, што знаходзіў рысы арнаменту з беларускага дзяржаўнага сцяга на мамантавых біўнях, адкапаных на тэрыторыі Беларусі. Ён член Геральдычнага савета пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Падобны да апісанага выпадак адбыўся раней у Пскоўскай вобласці, дзе дачнікі знайшлі каменную пліту з загадкавымі пісьмёнамі. Быў распрацаваны цэлы алфавіт, які дазволіў перацтварыць надпіс у досыць звязную бяссэнсіцу («і на опушке леса секом убілі, горе мне...»). А пасля яўрэі перавярнулі надпіс і прачыталі: «Пад гэтым надгробкам ляжыць набожная Хая, дачка Іцхака, пахаваная ў 1920 годзе».

СМ



## Як пражыў лета мінчук, які пераехаў у дзедаву хату на Палессі?

# «Карову трэба завесці. Ці жонку»

**Дзённік Андруся Горвата**
за лета 2015. Частка 2.





*Вёска, куды вярнуўся Андрусь Горват, называецца Прудок. Гэта ў глушы Палесся, каля мяжы з Украінай, 300 км на поўдзень ад Мінска. У Прудку жыве каля 150 чалавек. Найбліжэйшыя ад яе гарады — Хойнікі і Калінкавічы. Калі ведаеце знакамітыя вёскі Юравічы, Аўцюкі ці Каранёўку («Людзі на балоце» Мележа) — гэта побач.*

*Зарабляў Андрусь Горват фрылансам. Хацеў пайсці настаўнікам у Юравіцкую школу. Дык не ўзялі. Разлічвае ён цяпер на пракорм са свайго вялікага агарода.*

*У першай публікацыі (№24) мы развіталіся з ім 15 чэрвеня, на піку лета.*

### 20 чэрвеня

За чатыры дні я меў адносіны з такімі жывымі людзьмі.

Серада.

Пяць хвілін — з касіркай-аўцюкоўкай. Я запытаўся, ці быў у Прудку дождж у маю адсутнасць. Дажджу не было. Як не было і грошай у касе, каб даць мне рэшту. Касірка напісала на паперцы: «169100 мы вінаватыя» — і дала мне гэтую аблігацыю на рукі. Стасункі скончыліся.

Чацвер.

З жывымі людзьмі не размаўляў.

Пятніца.

Адну хвіліну — з украінкай, у якой бяру малако ад беларускай каровы.

Дзве хвіліны — з чалавекам, які лічыць, што ён мой сусед, хоць я яго ніколі не бачыў. Будую студню ў двары, нікога не чапаю, думаю пра аблігацыю і пра імавернасць таго, што я яе ўжо згубіў. І раптам блізенька чую чалавечы голас: «Можна я тут пасяджу?» Падымаю спужаныя вочы, а там жывы мужык. «Я сусед», — кажа і сядае на ганак. Я рысую на бервяне месца апілоўкі. «Ну, ладна, пайду». Пайшоў.

Тры хвіліны — з касіркай-неаўцюкоўкай. Разлічыўся аблігацыяй, якую знайшоў у кішэні памытых у чацвер нагавіцаў.

Субота.

З жывымі людзьмі не размаўляў.

0,1909722222222222% часу я быў сацыяльна актыўным.

### 21 чэрвеня

Палескія жанчыны ўмеюць адной рукой трымаць стырно машыны, другой — без промаху лавяць мух. На хуткасці 120 км/г. Сяджу побач і здымаю капялюш.

### 22 чэрвеня

Сёння сасніў страшны сон. Стаўлю я ў сне тычкі на хвасолю, а яны падаюць. Я стаўлю — тычкі падаюць.

### 23 чэрвеня

У Мінску вельмі шмат беларускага ў прасторы. Вы, мінчукі, можа, таго не заўважаеце, а я магу паглядзець звонку і бачу кожную кропельку, кожнае слова, кожную шыльдачку, кожную рысачку. Дзякуй вам. Вы малайцы. Вяртаюся дадому з цёплым сэрцам.

### 27 чэрвеня

Я зразумеў, што адзін у полі не воін, і прашу дапамогі. З 3 па 5 ліпеня збіраю ў сябе талаку на будаўнічыя працы. Ну, як талаку... Маленькую талаконьку — чалавек на пяць-шэсць. Асаблівых уменняў не трэба (у мяне іх таксама няма). Галоўнае, каб былі рукі, пачуцце гумару (якое спатрэбіцца, каб з рыдлёўкай наведваць лясную прыбіральню), уменне спаць на падлозе і любоў да кабачкоў, якіх у мяне нараслі сотні.

Фармат — палескі, мова — беларуская, ежа — вясковая.

Будзе наладжана экскурсія ў мясцовую краму, дэфіле калгасных кароў, піццё крапівы і свойскага малака. Клімат — субкантынентальны, блізкі да трапічнага. Прыпяць — 10 км. Ровар адзін. Самая смачная і карысная ў Прудку вада. Ну, чым яшчэ вас завабіць?

### 27 чэрвеня

У мяне ёсць мухі. Самую надакучлівую муху завуць Наташа. Я люблю ўвечары легчы, выключыць святло і сказаць уголас:

— Наташа, адчапіся. Не сёння.

### 30 чэрвеня

Аксана забывае пра мяне і ўсё малако здае ў калгас. Другі дзень запар купляю малако ў краме, як гарадскі лох. Касірка кажа, што Аксана п'е.

Пакуль ездзіў на ровары шукаць новую карову, пабачыў пяткі дзеда Ганушы. Ён бегае ад мяне, бо месяц таму пазычыў «да вечара» трыццаць тысяч, каб апахмяліцца пасля Тройцы. На Тройцу дзед Гануша нажэрся самагонкі з Алегам, мужам Аксаны.

Коля, сябар Алега, таксама п'е.

У гэтых людзей яшчэ ёсць імёны, каровы, мужы, жонкі. А побач жывуць Чорныя людзі. У іх аднолькавыя чорныя, бы палеская зямля, твары. Чорныя людзі — гэта зомбі колішніх палешукоў. Цяперака ў іх, як той кажа, не тое, што каровы — і душы ў целе ўжо няма. Яны п'юць — і ўсё.

### 30 чэрвеня

Месяц таму мы з цёткай Воляй заўзята дзяліліся агародніцкімі поспехамі: я вось гэта пасадзіў, а я гэта. Мы не слухалі адно аднаго, увесь час перабівалі, каб паспець расказаць паболей дасягненняў.

Цяпер правілы змяніліся. У размовах мы жалімся на надвор'е і яго наступствы: у мяне гэта пагарэла, а ў мяне яно ўвогуле не вырасла. Перамагае той, хто больш пацярпеў ад сонца.

### 1 ліпеня

Не даюць мне сёння спаць. Мой кот Рома туды-сюды праз акно соўкаецца. Сам не ведае, дзе хоча быць. Муха Наташа ніяк не супакоіцца. Нехта жэра маю сцяну. Па руцэ паўзе жук-насарог. Эпіцэнтр падзеяў, а не ціхае вясковае жыццё.

### 1 ліпеня

Неспадзеўкі на Прудок насунулася чорная хмара. Усе мы ціхенька сядзім пад вокнамі і молімся: толькі б хмара не збочыла, толькі б пайшоў дождж, толькі б сёння не Юравічам, а нам. Ужо няма розніцы, каму маліцца. Усё навокал заціхла ў спадзяванні. Усё навокал прасякнута спужаным нявер'ем.

Дождж пайшоў.

Выдых. Палёгка. Шчасце.

Вясёлыя машыны нясуць сваіх гаспадароў да градак, каб людзі і агароды перажылі радасць разам, поруч. Твары ўсміхаюцца. Агуркі ўсміхаюцца. Тычкі ўсміхаюцца.

А дождзе ідзе й ідзе. Ідзе й ідзе.

Апасля скажуць: то не дождж быў, то хлеб быў.

Апасля маці запытаецца: ну што, павесялелі градкі?

Мы тут вельмі залежым ад дажджу.

Мы тут вельмі весялеем ад дажджу.

### 2 ліпеня

Купіў у бабулі сала для заўтрашніх талакоўцаў. Сам я, хто не ведае, даўно не ем ні сала, ні мяса. Старанна схаваў шматок у пограб. Пяць хвілінаў я і сала неяк абыякава ставіліся адно да аднаго. Што было потым, я не памятаю. Памяць вярнулася да мяне, калі на талерцы засталіся толькі недаедзеныя кавалкі цыбулі.

### 2 ліпеня

У вёсцы Боруск (гэта «прыгарад» Аўцюкоў) свая ўнікальная барусканская мова. Яна быццам і беларуская, але з уплывам украінскай мовы. Адна з адметнасцей барусканскай мовы — канчатак «ом» заўсёды пераходзіць у «эм». Напрыклад, не малаком, а малакэм. Цікаўлюся ў бабы Гашы (мая дваюрадная бабця):

— А тапаром будзе тапарэм?

— А тапаром будзе сякерай.

### 5 ліпеня

Калі мой унук пацікавіцца, а хто ж зрабіў такі ладненькі брыль над ганкам і дах над сенцамі з каморай, я раскажу яму пра першых талакоўцаў: Віталя Гуляка, Аляксандра Вушакевіча, Сержука і Яніну Мяцельскую, якая бегала ў краму, каб даведацца ў прадавачкі, як гатуюць халаднік, і карміла нас не горай за любую палескую



Каму ў Прудку найлепш — гэта Рому.

ФОТА З ФБ АНДРЭЯ ГОРВАТА

гаспадыню-прафесіяналку з чорным поясам па кулінарыі.

Я абяцаю, што ніколі не забуду гэтыя тры дні. Буду заўсёды чакаць вас у госці. Дзякуй.

**6 ліпеня**

Прыязджае на трактары дзядзька Андрэй замераць столь, бо прудкаўскі паляшук дзядзька Віця, які цяпер жыве пад Маладзечнам, пажадаў прывезці мне дошкі на столь. Проста так. А сам дзядзька Андрэй цягне бэльку. А мясцовы п'яка на лісапедзе з калгаса возіць аліву на слупкі. А Вольга Васілеўна цікавіцца, калі ж у мяне бульба скончыцца, каб прывезці яшчэ. Бо я свой. А свайму паляшук нічога не шкадуе.

**7 ліпеня**

Радыё *Prudok FM*. Начная перадача «Для тых, хто не спіць». Лягу пад яблынькай. Трэцяя ноч не ў ложку, а на зямлі ў садзе. Каровы варушацца ў кароўніку. Суседскі сабака брэша на купальскага дзядка. Ёсць імавернасць дажджу. Ці што заказыча ў сне русалка. Ці яблык упадзе на галаву. Але мы, прудкаўскія хлопцы, нічога не баімся. Канец сённяшняга эфіру. Дабранач. Гімн.

**7 ліпеня**

Паехаў лісапедам на пошту. Праз дваццаць кіламетраў вырашыў заскочыць да цёткі Волі. Той не было дома, але былі мае любімыя крышані (мы так суп тут называем). Нажэрся крышанёў, паспаў. Пакуль даехаў да пошты, яна зачынілася. Вяртаюся дадому любімым хойніцкім гасцінцам. Агулам 45 км, каб проста паесці.

**7 ліпеня**

*Prudok FM*. Вячэрні выпуск навінаў. Па небе перадаюць зоркі. Быццам не ў двары спіш, а ў Космасе. А я Маленькі Прынц з Ромам замест ружы. Касмічны сабака брэша. Касмічная карова варушыцца. Як учора і як мільён гадоў таму. Як тут і як усюды. А я ўжо не стану касманаўтам.

**8 ліпеня**

У мяне ёсць толькі адна шкарпэтка. Калі параніў нагу, хадзіў у ёй па Прудку.

— А чаво ента ў цябе адзін насок? — цікавіцца прудкаўскі брутальны мужык.

— А вы тэлевізар не глядзіце? Увесь Мінск так ходзіць. Модна.

— Зусім людзі здурнелі ў гэнтым Мінску.

Людзі ў гэнтым Мінску, не дурнейце. Прудкаўскія з вас смяюцца.

**9 ліпеня**

Не ведаю, ці ёсць такая прыкмета насамрэч, але я заўважыў, што перад дажджом мухі шалеюць. Нават Наташа ўчора паводзіла сябе неадэкватна — не чула ні маіх просьбаў, ні маіх патрабаванняў сціхнуць. А пасля начнога дажджу мухі млявыя і абыякавыя да мяне і свайго жыцця.

Канец навуковай нататкі.

**10 ліпеня**

У Прудку можна ўбачыць чырвоны хверары і чумазых цыганятаў на возе, які цягне старая сівая кабыла. Хочаш, як людзі на балоце — няма праблемы. Хочаш «па-сравременнаму» — а наце.

**10 ліпеня**

Мой дзед казаў: гаспадарку весці — не яйцамі трэсці. Ён умеў спаць стоячы і на той момант меў найлепшую хату ў вёсцы. А я гарадскі лох, які нічога не разумее ў будаўніцтве. Усё ў мяне згніе, усё абрынецца.

Вы праслухалі перадачу "Чалавек, які ведаў дзеда, заходзіў у госці".

**10 ліпеня**

Заўтра распачнецца другі сезон прудкаўскай талакі. Я пайшоў па сала.

**15 ліпеня**

У Прудку няма кнігарні. Бібліятэка, кажуць, ёсць (мо за кароўнікам?) — кнігарні няма.

А ўчора прыйшла пасылка з 1 кг 156 г шчасця.

Шаноўныя пісьменніцы Марыя Вайцяшонак і Святлана Алексіевіч, дзякуй вам. У мяне няма словаў.

**16 ліпеня**

У мяне ўсё яшчэ няма прыбіральні. Таму выраз «схадзіць да ветру» выглядае натуральным. Але падчас талакі высветлілася, што ёсць патрэба ўдакладняць, да якога ветру талаковец ідзе. Бо калі, прабачце, пасраць, то гэта ў лес. Астатнія патрэбы спраўляюцца ў хмызняку. У выніку мы ўзбагацілі не толькі палескую зямлю, але і беларускую мову, бо ўвялі ва ўжытак, поруч са «схадзіць да ветру», «схадзіць да хвоі».

А шчэ ў Часлава Пяткевіча я чытаў пра выраз «пасадзіць ігрушу...» Бо даўней грушы елі з косткамі, не пакідаючы недагрызку. І раслі тыя грушы звычайна ўздоўж суседскай мяжы. Там яшчэ цікавая прыказка ёсць: «Тое, што мужык за вуглом кідае свінням, тое пан, схаваўшыся, нюхае сам».

**17 ліпеня**

Другая талака скончылася. У мяне ёсць столь і сябры. І я не ведаю, чаму болей радавацца. Прадавачка яшчэ месяц будзе ўзгадваць Ягора Кісялевіча: «Вой, які харошы хлопец. А як жа ён прыгожа размаўляе па-беларуску!» Дзед Ганюша здаволіўся, бо знайшоў Яну, якой можна расказаць пра незлічоныя каханні. Бабка, што прадае яйкі, прадала ўсе яйкі. Цётка, што прадае сала, прадала сала.

Мне тут кажуць, што першай справай трэба пабудаваць прыбіральню, бо хадзіць да хвоі не камільфо. Але я найперш, калі прыехаў жыць у дзедаву хату, зняў са сцяны партрэт Лукашэнкі (справа рук брата Шурыка) і павесіў партрэт дзеда. А прыбіральню зраблю, абяцаю.

**17 ліпеня**

Дзед Ганюша пратаптаў сцежку да маёй хаты. Сёння зноў прыйшоў пазычыць грошы. А я, халера яго бяры, не магу дзеду адмовіць. Жанчыне адмовіць магу — дзеду не магу.

— Дзед, няма.

— Ну пашукаааааай...

А вочы такія добрыя-добрыя.

Пашукаў.

Знайшоў.

Заб'ю я дзеда гэтымі пазыкамі.

Баба Наташа па тэлехвоне дала яму ў тык: «А чаго ето цябе, красаўчыка такова, Горватаў з нейкім хлопцам дадому прывалаклі?»

Вернецца з лякарні — і мне дасць у тык.

**18 ліпеня**

Сёння дзед Ганюша пайшоў ад мяне ні з чым. Я трымаў абарону 16 хвілінаў.

**20 ліпеня**

Шурык меў намер пусціць дзедаву хату на дровы. Яна муляла вочы сельсавету, і гэныя чыноўнікі летась далі Шурыку адзін год. Сёння я б мог піць каву на балконе ў Мінску, мне б патэлефанавала маці і між іншым паведаміла б, што ў Прудку болей няма дзедавага селішча. Потым тут вырасла б калгаснае жыта і штогод на Радуніцу мы, нашчадкі, гулялі б у гульню: плот быў ад гэтуль да гэнуль, тут была студня, там баба Дуся сядзела на лаўцы. Мы штогод гуляем у гэтую гульню на айчыне маці. Аднак я неяк скочыў у апошні вагон, п'ю каву на ганку дзедавай хаты, Шурык застаўся без дроваў, калгас — без жыта, нашчадкі — без штогадовай забавы.

Я сёння сабраў гарох і цэлы дзень думаю, што яго магло б не быць. У мяне мала ўнутранай фантазіі, каб уявіць гэты свет без гэтага гароху.

**21 ліпеня**

У маёй бабулі прозвішча Стома. Вось і я цяпер адчуваю стому. Не ад жыцця ў вёсцы, а ад жыцця навідавоку. Нехта едзе на мора, а я хачу залезці ў куфар, узяць з сабою зямельны надзел, хату, кнігі, аловак, рэшту лета, закаркаваць замочную шчыліну бабуліным вышываным ручніком і проста пабыць кабачком, для якога Сусвет — гэта агарод.

Я па-ранейшаму рады стасункам і гасцям. Асабістым стасункам і асабістым гасцям. Па-за публічнай адказнасцю і медыйнасцю.

Праз тыдзень-два-тры вярнуся і буду зноў цешыць і надакучваць.

Да сустрэчы.

**24 ліпеня**

Сяджу ў куфары і, як той кажа, нікога не чапаю. Чую: тук-тук.

— Хто там?

— Здраствуйця! Вам пасылка з Мінску.

Назаўтра ізноў: тук-тук.

— Вам пасылка з Варшавы.

Кнігі ад Алены Гушчы і Ірыны Птушкі.

Дзякуй!

**28 ліпеня**

У навакольных вёсках пазакрываліся школы, усе настаўнікі згуртаваліся ў Юравічах і Аўцюках. Вакансій болей няма. Мяне не бяруць у касманаўты. Жыццё — боль. А я беспрацоўны дармаед.

**28 ліпеня**

Няхай мяне не бяруць у касманаўты, але калі зрання едзеш на лісапедзе па Палессі, увесь такі памыты халоднай вадой са студні, увесь такі вылежаны на цвёрдых дошках, увесь такі наеты сырадоем, увесь такі напоўнены любоўю; калі едзеш вось так на лісапедзе, то не шкада, што не бяруць у касманаўты, бо Космас і так унутры. І думаеш: а калі хто-небудзь захоча забраць у цябе твой Космас — наважышся праткнуць яго віламі? Наважышся праткнуць яго віламі.

**28 ліпеня**

Патэлефанаваў дырэктару школы, дзе вучылася мая маці.

— Які-які настаўнік?

— Магу мову, літаратуру, гісто..

— А геаграфію?

— У прынцыпе... Ну... Калі падумаць...

— Вы нам падыходзіце. Вы нам ідэальна падыходзіце.

**28 ліпеня**

Дырэктар школы па тэлефоне рыхтуе мяне да гутаркі з начальнікам раённага аддзела адукацыі. Я, як непедагог, мушу 31-га асабіста запэўніць столаначальніка ў сваім жаданні быць настаўнікам.

Працяг на старонцы 14.



**Вёска Прудок — гэта ў глушы Палесся, каля мяжы з Украінай. У Прудку жыве каля 150 чалавек. Найбліжэйшыя ад яе гарады — Хойнікі і Калінкавічы.**



**Пераехаўшы ў Прудок, Андрэй найперш павесіў партрэт дзеда.**




**«А чаго ето цябе, красаўчыка такова, Горватаў з нейкім хлопцам дадому прывалаклі?»**

# «Карову трэба завесці. Ці жонку»

Працяг са старонкі 13.



— У вас запытаюцца, чаму вы з Мінска пераехалі ў Прудок. Што вы адкажаце?

— Прыехаў жыць на сваю Радзіму, адрамантаваць хату дзеда, якая разбуралася.

— Калі шчыра, гэта неістотная прычына. Што б вам такое сказаць?.. Ммм. Ну, скажыце, што ў Мінску былі праблемы з жыллём.

**29 ліпеня**

— Здраствуйця. Вам ізноў пасылка. Сёння з Германії.

Паштарка ўжо не возіць квітанцыі — адразу кнігі, бо думае, што я важны чалавек.

Прудкаўскі кнігазбор упэўнена выходзіць на міжнародны ўзровень.

Дзякуй, спадарыня Ганна Анакер-Сантаровіч, за цёплы кавалак Берліна.

**29 ліпеня**

Рома з'еў Наташу.

**31 ліпеня**

Навіны з перадавой. Спадарыня Касячок Сістэмаўна не захацела прытуліць мяне да свайго гарачага цела. Але, як кажа мая маці, вада дзірку знойдзе. Спадарыня Сістэмаўна, я вада.

**31 ліпеня**

Калінкавічы і Мазыр, прыём! Штотыдзень на дзве гадзіны патрэбны два памяшканні (і там, і там) і адзін выкладчык беларускай мовы для палескага філіяла моўных курсаў «Мова нанова». Ёсць ідэі?

**31 ліпеня**

«І кашуля вісіць, і дурань дрыжыць». Першае, што сказала маці, калі мы з Варварай выйшлі з аўтобуса.

**1 жніўня**

Гэтага забілі, гэны павесіўся, Хведарава патравіла сваіх дзяцей, жонка хрышчэніка зноў украла і ў турме. Гэты п'яны памёр пад плотам, гэны з'ехаў у Мінск. Бабця на прыпынку проста расказвае пра сваіх суседзяў.

**3 жніўня**

Іду пешшу з Аўцюкоў у Прудок. За два дні падарожжаў ногі сцёртыя да крыві. На сонцы хоць ты гада пакладзі — і той спячэцца. Праз 3 км пачнецца лес-палёгка. Ем сырую калгасную кукурузу. Пяю «Тры чарапахі». Каровам падабаецца. Я люблю.

**4 жніўня**

«Папалася я дык папалася, як цыган у калхоз».

**4 жніўня**

Мае сябры з дыпломамі, развітваючыся, кажуць «пакуль». А непісьменная баба Воля з Аўцюкоў: «Ідзіце здаровенькі». Як доктар славянскага мовазнаўства і гісторыі Ян Станкевіч прапісаў у сваім «Маленькім маскоўска-беларускім слоўнічку».

**5 жніўня**

Навуковая заметка «Мяне не бяруць у касманаўты — 2».

Аўцюкоўскія сем'і карэннем сягаюць да глыбінных матрыярхальных асноваў. Аўцючка выбірае сабе мужа як цыган каня: каб здаровы быў, дужы і цярплівы. Бо муж — гэта тая ж скаціна. Мо крыху больш статусная за каня.

Мяне дык на аўцюкоўскім кірмашы мужоў узялі б апошнім — ды і толькі таму, што ў поцемках добра б не разгледзелі.

Найперш аўцючкі разабралі б лесарубаў у вышыванках. А вось тое, што адрознівае аўцюкоўскі матрыярхат ад любога іншага беларускага, — гэта ўменне жанкі шанаваць сваю худобіну-мужыка. Калі мужык мусіць зрабіць шмат працы, яго трэба рэгулярна карміць і прыгалубліваць. Шчаслівы конь удвая хутчэй і болей працы зробіць. Таму кожны аўцюк пры аўцючцы пачувае сябе па-мужчынску рэалізаваным.

Канец навуковай нататкі.

**6 жніўня**

36.6. Тэмпература паветра ў норме. Быццам з усіх бакоў абдымаюць здаровыя чалавечыя целы.

**7 жніўня**

Радыё «Аўцюкі FM».

«Я як паглядзела, што там робіцца на гэных курортах — не лечацца, а там толькі гуляюць. Я прыехала дадому, кажу:

— Я больш не еду.

— А чаго?

— Так...

А мой мужык таксама ездзіў з жалудкам. Ды прыехаў ды кажа:

— Я больш на курорты не паеду.

— А чаго?

— Так».

**7 жніўня**

Ёсць у маім двары месца, дзе забуяла лебяда. Высачэнная — вышэйшая за мой рост. Вядома, можна было яе пакасіць, але, як той кажа, дурная работа. Я ў гэтым лябедніку нарабіў круглых пляцаў, злучыў іх калідорамі і назваў увесь мікрараён Курортам. Калі наглядзжуся ў сеціве рэпартажаў з мора, бяру посцілку, кнігу і іду на Курорт загараць. Угледзець мяне могуць толькі з верталёта, таму прыахвоціўся да нудысцкага пляжавання. А вы кажаце: глухая вёска. А я кажу: Курорт *all inclusive*. І не трэба плаціць мільёны, каб нарабіць сэлфі з нагамі.

**7 жніўня**

Калі ў мяне выйдзе свая кніга, я назаву яе «Анігадкі» — пра што б яна ні была. Для мяне гэта самае загадкавае слова. Я чуў яго з дзяцінства, але дагэтуль не магу дакладна яго патлумачыць.

**8 жніўня**

Прудкаўскі кнігазбор сёння ўзбагаціўся кавалкам Кракава.

Паштарка прывезла на ржавым лісапедзе.

— Здраствуйця, гэта зноў я!

— Мо вам кабачкі трэба?

— Вой, у самой багата. Аддайце каму-небудзь.

— Дык ніхто не бярэ.

— Карову трэба завесці. Ці жонку.

* * *

Мне прыслалі кнігу «Беззваротна згубленая леварукасць» Ежы Пільха.

«Чалавек, які піша, у пошуках жанчыны свайго жыцця неаднаразова завязваў знаёмствы з патэнцыйнымі кандыдаткамі на гэту ролю, але, на яго бяду, кожны раз выходзіла, што патэнцыйныя кандыдаткі таксама пішуць».

**8 жніўня**

Страшныя справы дзеюцца. Я ж упэўнены, што фэйсбук — гэта адзін свет, а рэальнасць — зусім іншы. І што гэтыя светы перасякаюцца толькі па маім хаценні. Як той кажа, нягадкі! Прыехала нейкая цётка, перадала мёд ад сваякоў. Папрасіла: «Толькі ж не пішы ў фэйсбуку, што прыехала нейкая цётка, перадала мёд ад сваякоў». Добра, не буду. Я ўжо і да хвоі баюся ісці — увесь Калінкавіцкі раён даведаецца.

(А за мёд — дзякуй!)

**13 жніўня**

Мой стрыечны брат Сяргей перакананы, што нацыянальнымі каштоўнасцямі нельга намазаць хлеб, то бок яны непатрэбныя. Мы з Ягорам здзекаваліся з яго. Кшталту: ужіна не будзе — у нас толькі вячэра. Ён пагадзіўся на вячэру. Вячэрай хлеб намазаць можна.



**14 жніўня**

Не-не-не! Не трэба +20.
Вярніце спякоту!
Кавуны дагадаваць трэба.

**14 жніўня**

У жніўні ўсе мухі — Наташы.

**14 жніўня**

Ларыса Фёдараўна Касячок сядзела ў сваім кабінеце і разгублена назірала, як муха спрабуе вырвацца з павуціння за партрэтам Лукашэнкі. «У жніўні ўсе мухі — Наташы», — узгадала яна фразу са старонкі ў фэйсбуку маладога спецыяліста, які мусіў зайсці да яе з хвіліны на хвіліну. І трэба ж было ёй увечары патрапіць на той фэйсбук?! Такая добрая навіна была, што аб'явіўся малады настаўнік у Хвойніцкую школу. Дырэктар школы Васіль Пятровіч напрамілы Бог прасіў яе па тэлефоне: «Толькі не суроч мне хлопца, Хведараўна. Ён нават пра заробак не цікавіўся. Не будзе настаўніка — сама будзеш ездзіць у Хвойнікі настаўнічаць. Сама панімаеш».

Пятровічу да пенсіі блізенька. Яму ўжо нічога не страшна. А Ларысе Фёдараўне яшчэ б шэсць гадоў за крэсла патрымацца. А далей нехай піша, хоць усрэцца.

Муха ўжо амаль не бзынкала. Самой ёй, без дапамогі, не ўратавацца. Павук сядзеў у шчыліне на рагу рамы і цярпліва чакаў, пакуль тая скарыцца мушынаму лёсу.

Халера яго бяры! Няхай старшыня бярэ на сябе адказнасць.

— Сямён Адольфавіч? Касячок на правадзе.

— Слухаю, Ларыса Хведараўна.

— Сямён Адольфавіч, тут такое дзела. Да мяне хутка прыйдзе адзін малады спецыяліст. Е вакансія. Я з Пятровічам рашыла вапрос. Но тут такое дзела. Хлопец піша многа лішняга ў гэтым фэйсбуку. Самі панімаеце, Сямён Адольфавіч, што могуць быць праблемы. Напіша не так, паляцім і я, і вы, як фанеры над Парыжам.

— З нашых хто?

— З Мінску, Сямён Адольфавіч. Але хто яго ведае, самі панімаеце.

— А што там з вакансіяй?

— Няма нікога, Сямён Адольфавіч, самі панімаеце.

— Учыцель нам нада, а праблемы нам не нада, самі панімаеце.

— Панімаю, панімаю, Сямён Адольфавіч. Самі панімаеце, панімаю.

**15 жніўня**

Над Варварыным ложкам вісіць пучок палыну. Але я ж не магу сказаць, што гэта проста сохне *Artemisia absinthium L.* Я ж магу толькі бязглуздзіцу прыдумаць. Пра чароўныя зёлкі, якія наўмысна павесіў тут, каб доні не сніліся пачвары. Калі-небудзь Варвара стане старэнькай бабулькай. Да яе прыедуць унукі цяперашніх сэтаўцаў збіраць хвальклор. Баба Варка раскажа пра чароўныя зёлкі, якія бацька колісь вешаў над ейным ложкам. І я са сваёй травой траплю ў кнігу.



Фоты з Прудка — Сяргея Гудзіліна, акрамя пазначаных асобна.

**20 жніўня**

Першы прудкаўскі Горват (мой прапрапрапрапрапрапрадзед Сцяпан (у дакументах Стэфан), нарадзіўся прыблізна ў 1750 г.) у архіўных запісах меў падвойнае прозвішча — Горват-Новік. Даўней усякага навічка, прышэльца, новага жыльца звалі Новікам. Першы беларускі Горват (Ян) таксама меў падвойнае прозвішча — Горват-Нікшыч. Ён прыехаў з Харватыі ў 1651 годзе вучыць паўднёваславянскім манеўрам войска князя Радзівіла.

**21 жніўня**

Адскроб я сёння з Варвары пясок, а з ноўтбука — мушыныя какашкі. Наадэкалоніў памытага сябе. І пайшлі мы з Варварай і ноўтбукам у госці да чатырохюраднай сястры, якая прыехала з Балгарыі.

Сонца ўжо збочыла за страху кароўніка. Каровы ўсміхаліся. Сухі палын пах на руках. Варвара скакала ў хмызняку, ноўтбук біў па плячох. Змучаныя калгаснікі сёрбалі пад покуцямі баршчы. У дамах закіпала вада на чай. Усё было добра. Адным словам — павясковаму вечарэла.

А балгарская сястра-псіхатэрапеўтка і кажа:

— Твой пераезд у Прудок звязаны з нейкай псіхалагічнай траўмай?

Мінскія каровы не ўсміхаюцца. Вось і ўся мая траўма.

**22 жніўня**

Іду па Мінску. А ўсе людзі чужыя. Няма каму здрасця сказаць.

**22 жніўня**

Вось што я вам скажу, даражэнькія. Мінск — цэ Еўропа. Лухта, што мінчукі не ўсміхаюцца ў метро. Парыж — амаль такі еўрапейскі, як вуліца Карла Маркса. У Амстэрдаме амаль столькі ж раварыстаў, як на праспекце Незалежнасці. Негры ёсць. Кітайцы ёсць. Арабы ёсць. Прыгожыя жанчыны ёсць. Хіпстары ёсць. Лесарубы ёсць. І ўсё гарманічна суіснуе. Дзіўна толькі, што бязвізавы рэжым для прудкаўскіх.

**25 жніўня**

Тры дні таму мой капітал складаў 10800 беларускіх рублёў (0,7 даляра). Сёння я аддаў 10000 дзеду Ганушы (ён вельмі ўжо прасіў). У мяне засталося 800 рублёў (0,06 даляра). Мяне гэта турбуе? Мяне гэта не турбуе.

У Мінску без сотні ў кішэні мне страшна было выйсці з кватэры.

Сёння я ўпэўнены, што грошы і рэчы ўсяго толькі дапамагаюць адцягнуць увагу ад унутранай цішы ды пераждыць адзіноту.

Калі я стану старым разумным дзядзькам, я напішу пра гэта кнігу.

**26 жніўня**

Сёння вывучаем простыя сітуацыйныя дыялогі.

Дыялог №1.
— Як здароўе?
— Ааа... *уёва. У цябе е што?
— Няма.

Дыялог №2.
— Як маецеся?
— Як? Гарую.
— Ну дзякуй Богу. (Як варыянт: ну, гаруйце, гаруйце — не буду вам перашкаджаць).

З гэтым гараваннем я асарамаціўся, калі (даўней яшчэ — зялёны і нявопытны быў) на пытанне бабы Наташы «Ну, што — гаруеш?» адказаў: «Чаму гарую? Працую».

(Для тых, хто ў падлодцы: гараваць = працаваць)





На месцы, дзе старая тынкоўка выпала ў форме сэрца, Горват выклаў сэрца з каменьчыкаў.

**27 жніўня**

У пачатку лета 1961 года ў вёсцы Бярозаўка ва ўзросце 37 гадоў паміраў мой дзед Іван, матчын бацька. Перад смерцю ён нясцерпна захацеў ігрушавага расолу. І мая дзевяцігадовая маці пайшла да свайго дваюраднага дзеда Сафрона — адзінага ў вёсцы, хто квасіў дзічкі. Дзед Іван здаволіўся тым расолам і памёр. А маці дагэтуль штогод квасіць дзічкі па тым рэцэпце — з жытнёвай саломай, соллю і смародзінавым лістом.

— Дзеўкі, наце вам кастрыцы, — казаў дзед Сафрон бярозаўскім дзеўкам і раздаваў квашаныя грушы.

Спіце спакойна, дваюрадны прадзед Сафрон і дзед Іван. Потым, калі я стану дзедам Андрусём, буду квасіць дзічкі і чапляцца да прудкаўскіх дзевак:

— Дзеўкі, наце вам кастрыцы.

**28 жніўня**

«Адной з прычын упадку першых культурна-нацыянальных беларускіх арганізацый было і тое, што рэвалюцыйная завіруха захапіла ўсю нашу моладзь. Усе інтэлігентныя сілы краю заняліся адной толькі палітыкай» (Сяргей Палуян, пачатак XX ст.).

**31 жніўня**

Дзядзька Пятро робіць грубу.

Маці прывезла з дому вугалькі са сваёй печы. Ёсць такая традыцыя, калі бацькі дзеляцца з дзецьмі агнём з сямейнага ачага.

1 верасня хата закурыць дровы. Пацячэ дым з трубы. Прачнуцца энергіі. Пачнецца жыццё.

А пакуль што... Дзядзька Пятро робіць грубу. Маці расказвае пра сямейны ачаг. Мы з хатай чакаем чагосьці.

**1 верасня**

Спадарыня Святлана Алексіевіч, шчыры дзякуй за падтрымку і дапамогу! Вашая ўвага да мяне нечаканая, але і, што казаць, вельмі прыемная. Спадзяюся калі-небудзь мець магчымасць аддзячыць справай, не словам.

**1 верасня**

Маці кідала ў грубу рытуальныя вугалькі і прыгаворвала: «Каб жонку сабе знайшоў, каб дзетак нарадзілі, каб цёпла было». Вось так замоўлены-зачараваны першы агонь у хаце.

Я залез на страху, каб залатаць дзірку. Дым з трубы гуляў у маіх валасох, а я фоткаў кароўнік за хатай і думаў пра тое, што яшчэ летась губляў раўнавагу, калі залазіў на табурэт, каб укруціць лямпачку. Зараз я нічога не губляю на любой вышыні.

**2 верасня**

Калі ў мяне не было сваёй вады, я хадзіў па яе да сябра майго дзеда. Аднойчы прыходжу: яго баба сядзіць на лаўцы, а з хаты чуецца нейкі грукат.

— Што ў вас там? — пытаюся.

— А гэта мой пярдун стары палез дах ладзіць. Гэта ж ён на цэбе паглядзеў, усю ноч варушыўся, а нараніцу сказаў: во Горватаў унук вярнуўся, мо і з нашых хто вернецца — трэба хату ладзіць. Хоць бы рэбры не пераламаў.

Таму вяртайцеся, унукі.

Дабранач.

*[Працяг (спадзяёмся) будзе. Друкуецца скарочана. Поўная версія — на сайце NN.BY. Абсалютна поўная — у фэйсбуку Горвата.]*




**31 кастрычніка ў Свіслачы (Гродзенская вобласць) прайшла акцыя памяці паўстанцаў Каліноўскага. У Свіслач прыехала каля 50 мінчукоў. Яшчэ столькі ж было ўдзельнікаў з Гродзеншчыны — Свіслачы, Гродна, Ліды ды іншых гарадоў.**




**Дзень Усіх Святых у вёсцы Баруны, Ашмянскі раён.**




**31 кастрычніка сотні юнакоў і дзяўчат святкавалі Хэлоўін у Мінску. Яны размалёўваліся ў пачвар, вядзьмарак і зомбі. У асноўным моладзь збіралася ў раёне Нямігі.**



**«Пагоня» ў «Мінск-Арэне»: некаторыя заўзятары прыйшлі на матч «Дынама-Мінск» са «Слованам» у адмысловых майках. Нікога не затрымлівалі.**




**26-гадовая полька Агнешка Радваньска ўпершыню перамагла ў выніковым турніры WTA, у якім удзельнічае 8 наймацнейшых тэнісістак за год.**



**На сустрэчы ў Ватыкане з папам Францішкам прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайце запрасіла яго наведаць Літву. Пантыфік таксама атрымаў у дар ад Грыбаўскайце пчаліны мёд, упрыгожаны малюнкамі літоўскіх дзяцей.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Дарагія жонкі расіян! Калі ваш муж з'ездзіў у Мінск і кажа, што ні разу не пачуў беларускай мовы — гэта значыць, што ён там швэндаўся па казіно, па незразумелых фарбаваных бабах, піў гарэлку ў кафэ «Бярозка», ганяў на машыне па вуліцы Камуністычная, п'яны спяваў «Ой, мароз, мароз, не марозь мяне...» Не выконваючы вашай дыеты, жэр смажаную доктарскую каўбасу са смажанай бульбай і запіваў півам, ад якога яго пуза стала зусім як глобус.

А калі муж кажа, што толькі беларускую і чуў, то можаце быць спакойныя: ваш муж хадзіў на паэтычныя вечарыны ў кнігарні, камунікаваў з літаратарамі і мастакамі, быў на выставе пейзажнай фатаграфіі, ездзіў глядзець адрэстаўраваную рэзідэнцыю Радзівілаў, піў каву, думаў пра Канта і гартаў стары том санетаў Адама Міцкевіча.

**Максім Гаруноў, facebook.com**

* * *

Міністр адукацыі 10 разоў не здолеў прайсці ЦТ, міністр аховы здароўя страціў прытомнасць у чарзе ў паліклініцы, дэпутат памёр з голаду, пражыўшы месяц на дзіцячую дапамогу. Толькі пасля гэтага пенсіянер адпусціў залатую рыбку.

* * *

Раніца пачынаецца не з кавы. Раніца пачынаецца з думкі: «Трэба было легчы крыху раней».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Баруны, Ашмянскі павет.** Беларуская праца тут вельмі пашыраецца. Для росту нацыянальнай самасвядомасці паўплывалі войскі, якія цяпер тутака прыйшлі. Хоць складаюцца яны з розных нацыянальнасцяў, называюць сябе «беларускімі». Вось сяляне і разважаюць: «Відаць, беларуская справа бярэ верх, калі і небеларусы называюць сябе беларусамі». Свядомасць у сялян такая, што яны выступілі з цвёрдым дамаганнем, каб пробашч завёў у касцёле казанні па-беларуску. Пад просьбай падпісалася ўжо больш за 200 душ.

**«НН». №2. 1920.**

**Найважнейшае з мастацтваў.** Элегантны пачатак выбараў: затрыманыя 70 сяброў ініцыятывы «Партнёрства», што, выкупіўшы білеты на тры сеансы фільма «Жах Амітывіля», сабраліся ў кінатэатры «Цэнтральны», каб стварыць грамадскую арганізацыю па назіранні за выбарамі-2006. У выніку моладзь зацвердзіла статут і абрала кіраўніком Міколу Астрэйку проста ў Маскоўскім РУУС.

**«НН». №41. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 03.11.2015.
Замова №4344.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

